
Міхал АНДРАСЮК → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Ніл ГІЛЕВІЧ → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 41 (3100) Год LX | Беласток, 11 кастрычніка 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Помнік Кастусю Каліноўскаму з'явіўся ў Мастаўлянах

## Кастусь — Жыве Беларусь!

**Больш за два гады спатрэбілася, каб беларускаму нацыянальнаму герою ўсталяваць помнік на яго радзіме. У Мастаўлянах, што ў Гарадоцкай гміне, адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка кіраўніку Студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве — Кастусю Каліноўскаму. Гэтая гістарычная падзея, мабыць, паўплывае на шырэйшае спазнанне постаці героя не толькі сярод мясцовага насельніцтва, але сярод нас усіх.**

Вёска Мастаўляны ажыла 2 кастрычніка. Маленькая прыгранічная мясцовасць, забытая і апусцелая ўжо даўно, не бачыла так шмат народу. Мясцовае насельніцтва, якое пра Каліноўскага не ведае замнога, таксама прысутнічала ва ўрачыстасці.

— Пэўна, што быў такі ў нас. Старэйшыя гаварылі, што нарадзіўся там недалёка, на прыгорачку меў хатку. Але помнік прыгожы. Кожны, хто бачыць, захапляецца.

Задума ўсталяваць помнік Кастусю Каліноўскаму ўзнікла ў час 150-х угодкаў ад уздыму паўстання 1863-1864 гадоў. Тады, на месцы, дзе сёння стаіць помнік, была асвечана мемарыяльная дошка ў гонар Кастусю Каліноўскаму.

— Гэта наша супольная ініцыятыва, — кажа войт Гарадоцкай гміны **Веслаў Кулеша**. — Тады, калі мы рыхтаваліся да ваяводскіх мерапрыемстваў у гонар Студзеньскага паўстання, падумалі, што варта ўшанаваць месца, з якім звязаны кіраўнік паўстання.

На ўрачыстым адкрыцці помніка прысутнічалі прадстаўнікі памежнай варты, гмінныя ўлады, школьная моладзь з Гарадка, мясцовыя рымска-каталіцкі і праваслаўны святары ды жыхары Мастаўлян і аколіц.

Кастусь Каліноўскі першы абгрунтаваў праграму барацьбы за палітычнае і духоўнае вызваленне беларускага народа і спрабаваў рэалізаваць свае ідэі стварэння дэмакратычнага ладу (у Беларусі і Літве). Паўстанне ён разглядаў не як самамэту, а толькі як адзіна магчымы і таму непазбежны ў тагачасных умовах сродак дасягнення свабоды і незалежнасці Беларусі. Аднак, як падкрэслівае гісторык, праф. Лена Глагоўская, Каліноўскі цягам дзесяцігоддзяў быў зусім забытым героем: «Можна сказаць, што ніхто не займаўся Кастусём Каліноўскім. Першы ўвёў яго ў беларускую нацыянальную свядомасць гісторык родам з Беласточчыны Усевалад Ігнатоўскі. Ён упершыню напісаў пра такога героя. Нават на думку ксяндза Адама Станкевіча, даваеннага беларускага святара, БНР магла здзейсніцца дзякуючы таксама Кастусю Каліноўскаму».

Нават у беларускай савецкай гістарыяграфіі лічылі яго героем. Больш, беручы пад увагу сацыяльны, а не нацыянальны аспект. А фрагменты «Мужыцкай праўды» прыводзілі як маніфест роўнасці сялян. Перш-наперш перад ягоным прозвішчам мусіла гучаць слова «рэвалюцыянер». У 60-я гады XX стагоддзя гміннаму асяродку культуры ў Гарадку было прысвоена імя Кастуся Каліноўскага. А ў Беластоку адна з важнейшых вуліц таксама носіць яго імя. Аднак нацыянальны аспект, а таксама рэлігійны ідэі Каліноўскага неяк замоўчваліся. Толькі пасля 1990 года беларуская патрыятычныя колы штораз часцей пачалі спасылацца да Каліноўскага як да нацыянальнага героя. У Беларусі існуе Фонд Кастуся Каліноўскага, па якім студэнты могуць вучыцца за мяжой. Пры кожнай дэманстрацыі Плошчу Перамогі ў Менску перайменоўваюць у Плошчу Каліноўскага.

Як падкрэсліваюць гісторыкі, паўстанне 1863 года ў тых умовах не мела шанцаў на перамогу. Аднак вельмі важным з'яўляецца тое, што дзякуючы паўстанню маглі праявіцца мужнасць, рашучасць і самаахвярнасць многіх беларусаў у змаганні за волю і лепшую долю народа. Вядома, сярод іх, як сапраўдны нацыянальны герой, вылучыўся Кастусь Каліноўскі. Дзякуючы яго нацыянальна-культурнай дзейнасці, якая перайшла ў палітычны рух, стала магчымай барацьба за дзяржаўнасць Беларусі. Паўстанне 1863 года было адным з цэнтральных звёнаў палітычнага і духоўнага адраджэння беларускага народа: без яго, відавочна, не адбылося б паскоранае развіццё нацыянальнай культуры ў пачатку XX стагоддзя

«Памяці Кастуся Каліноўскага, ураджэнца Мастаўлянаў, у 150 угодкі Студзеньскага паўстання 1863 года, нашчадкі». Такі беларускі надпіс лацінскімі літарамі віднее на мемарыяльнай дошцы ля помніка. Дарэчы, лацінкай Кастусь пісаў сваю «Мужыцкую праўду». Аўтара праекта помніка не трэба было доўга шукаць. Вядомы скульптар, уласнік майстэрні мэталапластыкі ў Беластоку **Януш Талуць** з ахвотай узяўся выканаць такую задачу. Дарэчы, сам Януш Талуць, родам з недалёкіх ад Мастаўлян Зуброў.

— Я вельмі хацеў, каб гэты помнік паўстаў. Стараўся зрабіць яго як найлепш, каб не трэба было яго саромецца. Таксама як нельга саромецца Кастуся Каліноўскага. Каб нарэшце гэты чалавек, які нарадзіўся на гэтай зямлі, дачакаўся такога гонару. Дошкі мала. Помнік можа будзе ўздзейнічаць на нас, можа пачнем ганарыцца такім чалавекам.

Месцазнаходжанне і апошні псеўданім рэвалюцыянера былі выдадзены здраднікам, арыштаваным у Мінску. У турме ў кляштары дамініканцаў Кастусь Каліноўскі знайшоў у сабе сілы, каб звярнуцца да беларускага народа. Ён здолеў напісаць і перадаць на волю развітальныя „Пісьмы з-пад шыбеніцы” з апошнім запаветам свайму народу. Каліноўскі быў павешаны ва ўзросце 26 гадоў у Вільні на Лукішскай плошчы.

— «Калі людзі забываюць, пачынаюць гаварыць камяні» — гэта можна аднесці да той антычнай думкі. Думаю, што зараз мала хто ведае кім быў Кастусь Каліноўскі, — падвяла **прафесар Лена Глагоўская**. І на жаль так ёсць. Нават яго аднавяскоўцы мала што ведаюць пра свайго славутага земляка, а ёсць і такія, якія ставяцца варожа, маўляў, не паважаў ён праваслаўнай веры. Мо і таму не здзіўляе факт, што помнік не быў асвечаны, хаця, трэба падкрэсліць, што святары, так рымска-каталіцкі як і праваслаўны, на адкрыцці помніка былі прысутныя. Помнік стаіць на раздарожжы — 50 метраў ад мясцовай царквы.

Самая ўрачыстасць адкрыцця помніка мела вельмі сціплы характар. Так бы мовіць, мерапрыемства гміннага ўзроўню. Дзеткі з гімназіі ў Гарадку прыгатавалі слоўна-паэтычны мантаж прысвечаны герою. Частка гурту «Хутар» з Гарадка праспявала некалькі песень, у тым ліку песню Сяргея Сокалава-Воюша «Маналог паўстанцкага каня», менавіта прысвечаную студзеньскім паўстанцам.

Ва ўрачыстасці не хапала беларускіх акцэнтаў. Не было бел-чырвона-белых сцягоў, палымяных прамоў ці натоўпу маладых беларусаў, для якіх Каліноўскі з'яўляецца нацыянальным героем. Але нягледзячы на гэта ў рэшце рэшт кіраўнік Студзеньскага паўстання на Беларусі дачакаўся свайго помніка. Як заўважае дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку Юры Астапчук, помнік гэты будзе нагадваць пра славутага змагара. Што гэта не нейкі герой Студзеньскага паўстання, а наш герой — сын нашай зямлі.

Вельмі кранальнымі былі словы Янкі Карповіча з гурта „Хутар”, які перад сваім выступам сказаў: «Кастусь — Жыве Беларусь».

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ


Злева: Януш Талуць і Веслаў Кулеша







# Бяспамяцтва эліт

Дзіўная чалавечая памяць. Як хутка яна забываецца пра кепскае мінулае. Вось, прыкладам, настальгію па былым савецкім жыцці адчуваюць, аказваецца, не толькі грамадзяне СНД, дзе стрэсавасць і нявызначанасць жыцця натуральным чынам масава ўводзіць жыхароў у дэпрэсію ды абстрактны пошук чаго-небудзь лепшага, хаця б у мінулым. Але, як сцвярджаюць сацыяльныя даследаванні, гэтая савецкая настальгія ўласцівая нават многім жыхарам краін, якія ўжо патрапілі ў Еўрасаюз і наладзілі так ці неяк сваё жыццё, маюць сваю справу і жывуць даволі нябедна і дастаткова годна.

Мажліва гэта такая абарончая рэакцыя забывацца тое, што прыносіць балючыя ўспаміны. Так лягчэй пазбавіцца ад думкі, што жыццё прайшло бяздарна і бессэнсоўна.

Вось для таго грамадству і патрэбныя эліты, якія на грамадскім ды дзяржаўным узроўні не даюць забывацца пра мінулыя праблемы ды няшчасці. Толькі як эліты перастаюць выконваць сваю місію, тады ўсё ідзе па новым коле, дзе мінулыя памылкі паўтараюцца з асаблівым цынізмам і здзекам.

Вось, здаецца, яшчэ зусім нядаўна еўрапейскія ды амерыканскія палітычныя эліты заяўлялі, што ніякіх саступак Расія не атрымае, пакуль не верне Крым. І вось ужо адбываецца чарговы, унікальны па маштабе і характары правядзення ды найбуйнейшы за апошняе дзесяцігоддзе саміт ААН. І што вы думаеце, галоўная яго тэма Крым? Дзе там! Тэма Крыма ўвогуле зараз пачынае многіх раздражняць. Не да яго, маўляў. Пра яго забыліся хутчэй, чым грамадзяне паслясавецкіх тэрыторый пра дэфіцыт, блат, бясконцыя чэргі за ўсім, кумаўство, несправядлівасць і іншыя негатывы савецкага мінулага. Галоўная тэма і чаканая сенсацыя на саміце — гэта што скажа кіраўнік Расіі Уладзімір Пуцін. Тактак, той сам Пуцін, якога нядаўна нібыта ніхто і слухаць не хацеў пакуль не выканае патрабаванняў Еўропы і Амерыкі.

Але што можна было чакаць ад гэтага выступу? Ну, адкрыта Уладзімір Уладзіміравіч трэцюю сусветную вайну не абвясціў. Ужо добра. Ну дык і першыя дзве адкрыта ніхто не абвяшчаў. Важнейшым хіба з'яўляецца тое, што робіцца ў дзеяннях. І што адразу пасля саміту авіяцыя Расіі ўпершыню пасля заснавання таго ААН, не хаваючыся як некалі за міфічных в'етнамцаў ці паўночных карэйцаў, пачала адкрыта бамбіць тыя тэрыторыі, на якіх вядуць баявыя дзеянні войскі ЗША і Еўропы. Паміж авіяцыяй Расіі і НАТА наўпрост сутычак пакуль што няма. Наадварот. Усе напалохана пачынаюць шукаць там агульнага і для Расіі, і для НАТА ворага. Хоць усе добра разумеюць, хто там каму сапраўды ворагі. І што рана ці позна гэтыя ворагі ўчэпяцца адзін другому ў горла.

Але вернемся да выступаў Пуціна. Па вялікім рахунку можна было ўжо і не слухаць пасля выступу начальніка беларускай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі. Той, сваёй прамовай геніяльна падрыхтаваў глебу для аргументаў расійскага калегі. Пуцін толькі коратка, у больш лаканічнай форме паўтарыў выступ Лукашэнкі. Складвалася такое ўражанне, што Уладзімір Уладзіміравіч або запісваў выступ Аляксандра Рыгоравіча, а пасля яго бяздарна паўтарыў, або прымусіў беларускага начальніка гэты выступ зазубрыць, каб ён прагучаў двойчы. Бо Пуцін хіба што іншых лічыць настолькі тупымі, што ім з першага разу можа і не дайсці.

Не ведаю ці дайшло б заходнім элітам тое з першага разу, але з другога дайшло дакладна. І вось ужо Абама ціснe руку Пуціну, а іншыя еўрапейскія эліты, якія нібыта мусяць памятаць чым гэта скончыцца, але не памятаюць, запрашаюць расійскага лідара на бясконцыя размовы і перамовы. Ну, а авіяцыя Расіі пачала адкрыта мачыць, тактак, менавіта мачыць, некага там у Сірыі.

Ну, хопіць пра саміт. Пра яго ой як доўга будуць гаварыць пазней. Пасля заканчэння трэцяй сусветнай вайны. Лепш узгадаць, што ў гэты ж дзень адбыліся яшчэ дзве знакавыя падзеі. Над Расіяй, Еўропай і Амерыкай, як сімвал хуткай трагедыі, праплыў крывавы Месяц. А яшчэ навукоўцы аб'явілі, што на Марсе цякуць рэкі з вадой. Як сімвал таго, што чалавечая цывілізацыя мае шанц уратавацца і існаваць далей. Хаця б на Марсе.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Чаму цяпер?

Ці трапятанне крылаў матылька, перапалоханага ў трапічных лясах Амазоніі, можа прывесці да катастрафічных змен ва ўсім свеце? Верагоднасць гэтага роўная таму, што Сонца выпаліцца да апошняга атама вадароду і свет скончыцца. І што гэта будзе вынікам выпалення, то пэўнае як двойчы два чатыры. Ну, нехта скажа, але ж працэс паміранння зорак займае дзясяткі ці нават сотні мільёнаў гадоў. Сонца — нестарое. Ну, я адкажу, але што гэта значыць «старое» ў дачыненні да нашай зоркі, чыё жыццё вызначаецца, прынамсі, на паўтара мільярда гадоў? А можа мільёны гадоў, што звянчалі яе смерць, толькі што прайшлі?

Факт, што нехта ці нешта вельмі знервавала амазонскага матыля. Злачынца невядомы. Няясна таксама, калі здарыўся гэты скандальны інцыдэнт. А здарыўся ён, бо бачым гэта навочна і, так бы мовіць, наскурна. Трапятанне яго крылаў ужо прыводзіць да змен у клімаце Зямлі. Азію пераследуюць нечуваныя ў гэтую пару года паводкі. І гэта па біблейскім маштабе. Еўропа з-за структурнай засухі памаленьку муміфікуецца. Таксама ў сэнсе ментальным. Нягледзячы на тое, Германія з яе адкрытасцю да бежанцаў з Сірыі і краін Афрыкі паказвае, што далёка ёй да еўрапейскай трухлявасці. На жаль, у Польшчы наступае яна хутчэй, чым больш камянее яе палітычны клас. Аматары Гары Потэра ведаюць, у чым справа. А хто не ведае, хай паслухае польскіх палітыкаў. Папуліцкія лозунгі, у якія строяцца многія з іх, як магічныя загаворы, выгравіраваныя на каменнай надмагільнай пліце. Чытаем на іх, што ісламскія ўцекачы ўяўляюць пагрозу для еўрапейскай культуры. Зброяй у яе абарону робяць нават хрысціянскія каштоўнасці. Адной з іх з'яўляецца міласэрнасць, якой ніяк не магу дашукацца ў выказваннях пана Качынскага ці пана Брудзінскага. Гэтая трывожная з'ява, якая мае сваю сумную гістарычную спасылку. У 538 годзе, у крытычны момант аблогі Рыма ордамі готаў, яго абаронцы пачалі кідаць са сцен на галовы варвараў галовамі мармуровых статуй багоў і імператараў, якія вынеслі з маўзалея Адрыяна. Варта прызнаць, што гэта мела сімвалічны аспект. Каб справіцца з варварскімі ворагамі, пераследаваныя не справіліся з уласнай культурай і ў выніку самі сталі варварамі. Дарэчы, праз некалькі гадоў, у 546 годзе Рым і так паддаўся готам, якія яго зусім зруйнавалі. Гэта факт, а не гістарычная ілюзія.

Папраўдзе чытачы Джоан Кэтлін Роўлінг з'яўляюцца ў асноўным маладымі людзьмі, таму, натуральна, яны ва ўзросце схільным да ілюзій, аднак гэта не абазначае, што яны не могуць адрозніць палітычнага штукарства ад сапраўднай магіі, якой на самой справе з'яўляецца палітыка. У любым выпадку, сучасны свет зачараваны ёю. На шчасце, што аповеды аб майстру Потэры чытаюць таксама (ну і што, што сарамліва і крадком) дарослыя людзі. Патэнцыйныя выбаршчыкі. Я не сумняваюся, што начытанасць па гэтым пытанні дапаможа ім адрозніць у палітыцы чорную магію ад белай. Веру, што маючыеся адбыцца парламенцкія выбары пакажуць гэта як найбольш выразна.

Паколькі Натура заўсёды імкнецца да збалансавання, у адрозненне ад глабальнага пацяплення, сіметрычна астыў палітычны клімат ва ўсім свеце. З ніадкуль з'явіўся дзіўны палітычны аб'ект, званы Ісламскай дзяржавай. Гэтае тварэнне з'яўляецца часовым, не маючым урада і грамадзян. Тым не менш, паводле закону таго ж самага прынцыпу сіметрычнага выраўноўвання, гэтая дзяржава без этнічнай ідэнтычнасці і выразна нанесеных меж будзе імкнуцца да тэрытарыяльнага пашырэння на ўвесь зямны шар. Выкажам здагадку, што гэты працэс працягнецца на сотні гадоў. У аналагічным працэсе развівалася хрысціянства. Гэта таксама факт. Але я не думаю, што гэта правільная прычына, каб кідаць сімвалам крыжа ў галаву кожнага мусульманіна. Мы павінны адрозніваць, ці абараняем Рым, ці чалавечыя каштоўнасці — не толькі хрысціянскія. І чаму менавіта цяпер?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Спрэчная біяграфія амбасадара

Шэраг пытанняў у польскіх палітычных колах выклікала кандыдатура юрыста і дыпламата, амбасадара ў Ірландыі (1997-2002) і Літве (2005-2013) Януша Скалімоўскага, рэкамендаванага Міністэрствам замежных спраў у Варшаве на новага амбасадара ў Мінску. Была яна вылучана яшчэ падчас прэзідэнцтва Браніслава Камароўскага і прынятая ім, а нядаўна зацверджана парламенцкай камісіяй па замежных справах (пры супрацы ПіС). Спрэчку выклікае асабліва тая частка яго біяграфіі з ПНРаўскага перыяду: у 1980 годзе скончыў Дыпламатычную акадэмію Міністэрства замежных спраў СССР у Маскве, у 1973-1977 гадах быў супрацоўнікам Цэнтральнага камітэта ПАРП і ў той жа час выкладаў у Акадэміі ўнутраных спраў, у 1977 годзе пачаў працаваць у дыпламатычнай службе на пасадзе першага сакратара пасольства Польскай Народнай Рэспублікі ў Маскве, і ў 1981-1985 гадах быў дарадцам і дырэктарам консульскага аддзела пасольства ў Львіі. Самы вялікі ажыятаж выклікае факт, што, як генеральны консул у польскім пасольстве ў Лондане (1988-1991) быў сакрэтным і свядомым супрацоўнікам спецслужбаў ПНР. Рапартаваў ён службам аб сітуацыі ў брытанскай Палёніі. Перад сеймавай камісіяй па замежных справах (з 2013 года з'яўляецца ён старшынёй праўлення фонду «Pomoc Polakom na Wschodzie») растлумачыў: «Сапраўды, я свядома супрацоўнічаў з ваенным аташэ ў Лондане. Я не саромеюся гэтага. Я думаю, што трэба было прыняць гэтае супрацоўніцтва. Я быў кіраўніком консульскай установы. У той час было іншае заканадаўства. Частка інфармацыі не праходзіла так проста ва ўстанове, як сёння. У цяперашні час у нас ёсць новы Консульскі кодэкс. Тады ўсё было сакрэтным, а некаторыя візавыя інфармацыі трэба было дастаўляць. Гэта было важным з пункту гледжання інтарэсаў Польшчы».

Намеснік дзяржсакратара ў Міністэрстве замежных спраў Конрад Паўлік, які захвальваў яго кандыдатуру, абараняў яго: «Для нас самым важным крытэрыем для назначэння на такую важную ўстанову, адну з самых складаных, гэта кампетэнцыі (...). Калі справа ў біяграфіі, спадар амбасадар сумленна аддаўся люстрацыйнаму абавязку. Ні адна ўстанова ў Польшчы не аспрэчвае яго заяву».

У сваім выступе перад парламенцкай камісіяй па замежных справах Януш Скалімоўскі, гаварыўшы пра свае планы як амбасадара ў Мінску, адзначыў: «Нашых адносін з Беларуссю не трэба разглядаць выключна праз прызму сітуацыі ў рэгіёне і адносін з Расіяй. Гэта было б аб'ектывацыяй нашага партнёра».

Адзначыў прыярытэты, якія мелі б суправаджаць яго магчымую працу амбасадара ў Мінску, у тым ліку працяг супрацоўніцтва з непрызнанымі беларускімі ўладамі Саюзам палякаў у Беларусі, дапамогу ў распрацоўцы новага пагаднення аб праўавых адносінах на мяжы, у галіне транспарту і адукацыі, будаўніцтва сядзібы польскага пасольства ў Мінску, запуск так званага візавага аўтсорсінгу, павелічэнне колькасці польскіх консулаў, увядзенне ў сілу пагаднення аб малым памежным руху. Успомніў таксама, сярод іншага, пра дапамогу ў расследаванні «аўгустаўскай аблавы», праведзеным ІНП, і аб намаганнях, якія будзе рабіць, каб атрымаць адабрэнне для пачатку разведачных прац над эксгумацыяй магіл у Курапатах, дзе маглі быць пахаваны афіцэры з г.зв. беларускага катынскага спіска.

Падчас нядаўняга знаходжання ў Беластоку ўрада, я спытаў у міністра замежных спраў Гжэгажа Схетыны пра меркаванне на тэму сумненняў адносна біяграфіі Януша Скалімоўскага:

— Гэта кандыдатура з пачатку года і працягваем падтрымліваць яе. Гэта чалавек з вялікім вопытам працы. Ён быў амбасадарам у Літве ў цяжкі час, калі былі будаваны Мажэйкі, і ў агульным энергетычнае супрацоўніцтва паміж Польшчай і Літвой. Падчас яго старшынства добра развіваўся фонд «Pomoc Polakom na Wschodzie». Гэта былі асноўныя пункты нашай рэкамендацыі гэтай кандыдатуры. У Беларусі патрэбны пасол, асоба, якая ў добрым сэнсе ажыццявіць тое, што не атрымалася за апошнія чатыры гады, а менавіта будаўніцтва будынка пасольства Польшчы ў Мінску, а таксама стварыць умовы для польскай прысутнасці ў Беларусі. Я ведаю, што яно мінулае выклікае эмоцыі, і гэта рызыкоўнае рашэнне, але я думаю, што яно апраўданае. Калі будзе для яе адабрэнне прэзідэнта Анджэя Дуды, я думаю, будзе ён добрым амбасадарам у Беларусі.

— А калі не будзе гэтага адабрэння? — пацікавіўся я ў міністра Схетыны і пачуў:

— Тады не будзе ў Беларусі польскага пасла.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Паставіць крыжык ПАДЧАС ВЫБАРАЎ



**Міхал Андрасюк** — вядомы на Гайнаўшчыне беларускі пісьменнік і самаўрадавы дзеяч. Працаваў ён настаўнікам, выконваў намагільныя помнікі, супрацоўнічае з Беларускім радыё «Рацыя». Старшынстваваў ён Беларускаму самаўрадаваму форуму ў Рэчы Паспалітай Польскай, які гуртаваў беларусаў з Беласточчыны, а якога офіс знаходзіўся ў Гайнаўцы. Быў Міхал Андрасюк адным з заснавальнікаў Беларуска-народнага выбарчага камітэта на Гайнаўшчыне, радным Рады Гайнаўскага павета, а пасля спыніў самаўрадавую актыўнасць. Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» выдала тры кніжкі Міхала Андрасюка на беларускай мове: «Фірма», «Мясцовая гравітацыя» і «Белы конь». Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь выдаў тры ягоныя кніжкі на польскай мове: «Biały koń», «Wagon drugiej klasy» і «Krzyżyk». Міхал Андрасюк за беларускую прозу быў у Рэспубліцы Беларусь узнагароджаны «Залатым апострафам», атрымаў узнагароду імя Веслава Казанэцкага за кніжку «Белы конь».

Першая прэзентацыя нядаўна выдадзенай кніжкі Міхала Андрасюка «Крыжык» адбылася 23 верасня ў Гарадской публічнай бібліятэцы імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы. У пачатку спаткання ў Гарадской бібліятэцы яе дырэктарка Ала Грыц прывітала ўдзельнікаў сустрэчы, у тым ліку гайнаўскага старасту Міраслава Раманюка і гарадскога раднага, прадстаўніка магістрата Славаміра Куліка. Сярод сабраных былі былы бургамістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк, дырэктар Асяродка спорту і рэкрэацыі ў Гайнаўцы Міраслаў Аўксянцюк, былы старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Яўген Янчук, старшыня фонду «Яны, гэта мы» Наталля Герасімюк, кіраўнік Гміннай публічнай бібліятэкі ў Дубічах-Царкоўных Міраслава Семянюк-Мараўская і старшыня Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь Марцін Рэмбач, выдавец кніжкі «Крыжык». Марцін Рэмбач сказаў, што першую прэзентацыю кніжкі рашыліся разам з аўтарам правесці ў Гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы, паколькі яе дырэктарка Ала Грыц першая запрасіла на прэзентацыю новага выдання. Міхал Андрасюк быў рады, што спатыкаецца з жыхарамі горада, у якім жыве здаўна.

— Міхал Андрасюк, так як і Віктар Кабац, важная асоба для Гайнаўкі. Таму мы рашыліся арганізаваць прамоцыю нававыдадзенай кніжкі «Крыжык» у нашай бібліятэцы. Міхал Андрасюк прызвычаіў нас да высокага ўзроўню сваёй творчасці. Мы рады, што сёння можам паразмаўляць з аўтарам, — сказала дырэктарка бібліятэкі Ала Грыц, якая вяла спатканне.

— У Гайнаўцы я нарадзіўся (у 1959 годзе — А.М.) толькі таму, што ў маёй вёсцы не было радзільнага аддзялення. А так я ўсё дзяцінства і юнацтва правёў у Войнаўцы. Спачатку я пачаў пісаць вершы, але пасля спыніў пісанне. Першыя вершы былі надрукаваны ў «Ніве». Пасля доўгага перапынку да пісання мяне заахвоціў Сакрат Яновіч і я стаў пісаць прозай, бо не адчуваю сябе добра ў паэзіі. Пісаў па-беларуску, а ўжо другая мая кніжка выдадзена на польскай мове. Я доўга жыву ў Гайнаўцы, а зараз многа часу праводжу ў Войнаўцы, дзе саджу дрэўцы, раслінnасць і многа калупаюся ў зямлі, у сваім агародзе, — заявіў Міхал Андрасюк і дабавіў, што ўзнагароду «Залаты апостраф» атрымаў як адзіны беларус, выхаваны і пражываючы па-за межамі Беларусі.






Кніжка «Крыжык» выйшла ў серыі «Бібліятэка Беларускага радыё Рацыя». Падзеі ў выданні адбываюцца ў малой пушчанскай вёсцы ў дзень самаўрадавых выбараў, перш за ўсё ў бары «Капрыё». Тут вырашаецца на каго і за што паставіць крыжык на выбарчым бюлетэні. Паяўляецца новы контркандыдат на пасаду войта, які прадвяшчае вялікія змены. Побач рэальных падзей паяўляюцца таксама духі, якія адных перасцерагаюць, а іншым пагражаюць. У канцы даносяць на выбарчы ўчастак найстарэйшую жыхарку вёскі, каб на бюлетэні паставіла яна крыжык каля паказанага ёй прозвішча. Пасля выбараў застаецца расчараванне... У выданні «Крыжык» аўтар выкарыстаў матыў выбараў, каб паказаць менталітэт часткі нашых вясковых жыхароў.

— Кніжку Міхала Андрасюка, з асаблівымі іроніяй і гумарам, чытаецца вельмі прыемна, а стыль і мова аўтара, як заўсёды, захапляюць. Аўтар адкрывае куткі людской душы, раскрывае тое, што скрываецца пад маскай прыстойнасці. Аднак ён далёкі ад крытыкі і аднозначнай ацэнкі, якую пакідае сваім чытачам. Мясцовы клімат — разбуджаны здагадкамі чый партрэт прадставіў у «Крыжыку» Міхал Андрасюк. Аўтар адлюстроўвае ўсё тое, што з'яўляецца сутнасцю нашай ментальна-нацыянальнай адметнасці, — лічыць Іаанна Кісялевіч, мадэратар Дыскусійнага клуба кніжкі ў Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы.

— Стыль прозы Міхала Андрасюка — адметны, своеасаблівы. Калі б я не ведала аўтара кніжкі і стала чытаць прозу Андрасюка, то яе пазнала б. Калі цяпер пачала чытаць кніжку «Крыжык», то адразу звярнула ўвагу на стыль прозы Міхала Андрасюка, якому характэрныя паэтычнасць, меладычнасць, дасціпнасць і жарты. Аднак адначасна яго стыль элегантны, без грубасці, — сказала чытачка, якая да сустрэчы паспела прачытаць вялікую частку кніжкі «Крыжык».

Міхал Андрасюк сказаў, што яго героі адлюстроўваюць працэсы, узятыя з розных нашых вясковых гмін. Чытачы звярталі ўвагу на цікавыя мастацкія прыёмы ў кніжцы. Наталля Герасімюк лічыць, што стыль Андрасюковай прозы падобны на стыль беларускага перакладу «Лялькі» Баляслава Пруса.

— Я раней пісаў вершы і можа ад іх засталася паэтычнасць, а пра падабенства маёй прозы да беларускага перакладу «Лялькі» Баляслава Пруса чую першы раз. Я ў сваёй прозе закранаю тэмы, якія лічу важнымі, асаблівымі і не ўяўляю сабе пісаць пад канкрэтнага чытача. Падзеі, якія я апісаў у кніжцы «Крыжык», і паводзіны герояў — інспіраваныя рэальнымі здарэннямі з нашых гмін, рысы герояў узятыя ад рэальных людзей, а свет духаў гэта ўжо фантастыка, інспіраваная забабонамі, — заявіў Міхал Андрасюк і дабавіў, што няма ў кніжцы герояў, якія адлюстроўвалі б канкрэтных людзей у рэчаіснасці. — Выбары адбываюцца час ад часу, а мне важна было паказаць спосаб думання і эмоцыі нашых людзей. Я стараюся даць адказ, чым з'яўляецца ўлада для звычайнага чалавека, які штодзень палітыкай не займаецца, і відаць, што чалавек любіць быць добра ацэненым уладай. Мае знаёмыя з Седльцаў, прачытаўшы кніжку, заявілі, што ў іх такое, як я прадставіў у «Крыжыку», таксама магло б адбыцца. У Варшаве сказалі б, што «Крыжык» — гатовы сцэнарый для фільма, а чалавек з Познані скажа, што немагчымае, каб такое магло здарыцца.

Міхалу Андрасюку паставілі пытанне, чаму чарговую кніжку напісаў на польскай мове, паколькі ранейшыя былі напісаны па-беларуску.

— Я пішу на дзвюх мовах. Беларусам з'яўляюся штодзень, а пісьменнікам бываю час ад часу, — заявіў Міхал Андрасюк. — Я рады, што першая прэзентацыя кніжкі адбываецца ў Гайнаўцы, у маім родным горадзе. Тут ёсць многа людзей, якія цікавяцца літаратурай і мне прыемна, што цікавяцца таксама маімі кніжкамі.

Міхал Андрасюк прачытаў фрагмент сваёй новай кніжкі і заявіў, што чарговую кніжку азагаловіць «Рускі квадрат» і заведзе ў ёй чытача на акраіну Гайнаўкі, адкуль выязджаецца ў Белавежу.

— Нагадаю, што рускі квадрат, гэта шэсцьдзесят сантыметраў на дзевяноста сантыметраў. Мяне вучылі, што пры дапамозе рускага квадрата найлягчэй *вінкель* вывесці. Я так яго выводзіў, калі намагільныя помнікі выконваў, — заявіў Міхась Андрасюк.

Пры выездзе з Гайнаўкі ў Белавежу распалажаны тры могільнікі з мноствам помнікаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# II Усходні эканамічны кангрэс (ч. II)

Многія ўдзельнікі дыскусій II Усходняга эканамічнага кангрэса ў Беластоку не хавалі, што да апошняга крызісу адносіны з краінамі былога Савецкага Саюза пакідалі жадаць лепшага. Усе, аднак, пагадзіліся, што неабходна штораз больш цеснае супрацоўніцтва з імі, асабліва з размешчанымі недалёка ад мяжы з Польшчай і такім чынам з Еўрапейскім Саюзам, асабліва з Беларуссю. Была згода на тое, што Польшча, і асабліва Беласточчына, можа адыграць ролю моста паміж ЕС і альтэрнатыўным для яго Еўразійскім эканамічным саюзам, які быў заснаваны ў канцы мая 2014 года Расіяй, Беларуссю і Казахстанам, а затым далучыліся да яго Арменія і Кыргызстан.

— Гэта, што польскія кампаніі адносна лёгка прайшлі праз турбуленцыі на ўсходніх рынках, можа сведчыць пра тое, што Усход не быў для польскай эканомікі такім важным. Яшчэ да вайны ва Украіне і эмбарга на пастаўкі, гандаль з Расіяй складаў 6-7 адсоткаў нашага таваразвароту. Гэта смешна мала, калі ўлічыць патэнцыял абедзвюх краін, — сказаў у час Кангрэса **Славамір Майман**, старшыня Польскага агенцтва інфармацыі і замежных інвестыцый.

### Ідэі ажыццяўляюцца

— Крызіс, аднак, заўсёды з'яўляецца магчымасцю і інспірацыяй, каб шукаць новыя рашэнні. На самой справе, гэта ўжо адбываецца, — сказаў у сваю чаргу **Роберт Тышкевіч**, дэпутат, старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах, мадэратар дыскусіі «Усходняя Еўропа — эканоміка, супрацоўніцтва, будучыня».

Дэпутат Тышкевіч нагадаў, што ў фазу рэалізацыі ўвайшоў адзін з пастулатаў леташняга Усходняга эканамічнага кангрэса, то-бок, дарога S19 (паміж Кузніцай-Беластоцкай і да мяжы са Славакіяй). Гэтак жа, як і намеснік прэм'ер-міністра і міністр эканомікі Януш Пехацінскі, згадваў пра пашырэнне Сувальскай эканамічнай зоны на чатырнаццаць гмін. Урад накіраваў гэтую задуму да міжведамаснага разгляду. Пасля пашырэння, СЭЗ будзе ахопліваць, сярод іншага, Бельск-Падляшскі, Гайнаўку, Нараўку, Сямятычы і Заблудаў.

**Яраслаў Невяровіч**, былы міністр энергетыкі Літвы і старшыня Польска-літоўскай гандлёва-прамысловай палаты, нагадаў, што вядзецца пашырэнне энергетычнага моста паміж Польшчай і Літвой, што будзе мець у бліжэйшыя гады фундаментальнае значэнне для энергетычнай бяспекі ў рэгіёне. Гэта азначае, сярод іншага, для Польшчы дыверсіфікацыю. Балтыйскія краіны, якія надалей удзельнічаюць у постсавецкай энергетычнай сістэме, выйграюць на бяспецы, але таксама здабудуць — дзякуючы большай канкурэнцыі — эканамічныя карысці:

— Сёння электраток у нас вельмі дарагі, даражэйшы, чым, напрыклад, у Швецыі. Трэба зрабіць высновы з рашэння аб будаўніцтве другой лініі газапровода «Nord Stream». Мы не павінны чакаць іншых, таго, што нешта адбудзецца ў Бруселе, толькі самі павінны прыняць меры, накіраваныя на дыверсіфікацыю, — сказаў экс-міністр, і прывёў на прыклад плаваючага газавага тэрмінала. — Гэта была дарагая інвестыцыя, таму што бяспека каштуе шмат грошай, але я ўпэўнены, што гэта гаспадарцы акупіцца.

**Катажына Кацпэрчык**, намеснік міністра замежных спраў, падкрэсліла:

— Вялікія надзеі ўскладаем на супрацоўніцтва з Беларуссю і Казахстанам. На гэтых рынках можам выкарыстоўваць вопыт, назапашаны ў Расіі і Украіне.

### Беларускія прэферэнцыі

Як мы ўжо згадвалі ў «Ніве» на мінулым тыдні, сёлета на Усходні эканамічны кангрэс у Беласток з Беларусі прыехала група амаль у пяцьдзясят чалавек, у асноўным прадстаўнікоў малога і сярэдняга бізнесу, у тым ліку **Наталля Нікандрава**, дырэктар Нацыянальнага агенцтва інвестыцый і прыватызацыі і **Уладзімір Карагін**, старшыня Рэспубліканскай федэрацыі развіцця прадпрымальніцтва ў Беларусі. Дырэктар Нікандрава пераконвала ўдзельнікаў кангрэсу аб жаданні ўлады яе краіны да ўмацавання эканамічных кантактаў з Польшчай і іншымі еўрапейскімі краінамі:

— Наша ўлада ў цяперашні час забяспечвае абарону для замежных інвестыцый. Гэта стварае спрыяльныя ўмовы для гэтага, і забяспечвае шырокі спектр паслуг для працы ў нас бізнесу. Складаная сітуацыя ў атачэнні нашай краіны схіліла наш урад да правядзення рэформ: скарачэнне крэдытавання дзяржаўных праграм, павелічэнне прыватнага сектара. Адным з нашых прыярытэтаў з'яўляецца таксама заахвочванне да замежных інвестыцый. Наш урад у цяперашні час гарантуе абарону замежных інвестыцый і дае вялікія прэферэнцыі для вядзення бізнесу. Мы можам выступаць у якасці моста паміж дзвюма найбуйнейшымі эканомікамі рэгіёна — Еўрапейскім Саюзам і Еўразійскім эканамічным саюзам.

Падкрэсліла:

— На сённяшні дзень нашы адносіны з Польшчай у эканамічным плане маюць велізарны патэнцыял. Польшча з'яўляецца дзясятым партнёрам Беларусі ў нашым тавараабароце, а прытым мы бліжэйшыя суседзі, у нас агульная гісторыя і культура.

У размове з «Нівай» звярнула ўвагу на спрыяльныя інвестыцыйныя магчымасці ў Беларусі:

— У цяперашні час у асноўным уся тэрыторыя Беларусі ўяўляе сабою разнародныя прэферэнцыйныя рэжымы для вядзення бізнесу ў залежнасці ад таго якога роду бізнес. Адным з самых буйных праектаў у цяперашні час з'яўляецца будаўніцтва кітайска-беларускага індустрыяльнага парку «Вялікі Камень» (25 км ад Мінска, на плошчы 80 квадратных кіламетраў — М. Х.), які будзе аграмаднай тэрыторыяй, размешчанай уздоўж маршруту Берлін — Масква, недалёка ад нацыянальнага аэрапорта. Гэта будзе цэлы прамысловы горад з цэлай інфраструктурай. Яго рэзідэнтамі змогуць быць кампаніі, якія схочуць зрэалізаваць свае індустрыяльныя праекты ў вобласці вытворчасці тавараў з новымі тэхналогіямі і г.д. На сённяшні дзень зарэгістравана трыццаць рэзідэнтаў гэтага парку. І хоць найбольш важны ўдзел маюць кітайцы, запрашаем сюды ўсіх з усяго свету. На працягу дзесяці гадоў рэзідэнты поўнасцю вызваляюцца ад падаткаў, а на працягу наступных дзесяці — да пяцідзесяці працэнтаў. Акрамя таго, наша дзяржава забяспечвае значнае палягчэнне вядзення бізнесу, звязанага з развіццём малых і сярэдніх гарадоў. У нас ёсць спецыяльнае заканадаўства па развіцці Магілёўскай вобласці, прылеглай да Расійскай Федэрацыі, і ў шасці нашых эканамічных зонах, якія маюць у распараджэнні многія льготы для інвестараў. Акрамя таго, праз прыватных буйнейшых беларускіх інвестараў працягваецца ініцыятыва, у рамках якой у Мінску будзе пабудаваны велізарны комплекс «Мінск-Мір». Выдзелена ўжо тэрыторыя на былым аэрапорце ў цэнтры Мінска. Плануецца тут стварэнне сусветнага фінансавага цэнтра і сусветнага гандлёвага цэнтра.

### Беларусы з капіталам

У сваю чаргу, старшыня Карагін сказаў:

— Ужо на першым кангрэсе мы прыйшлі да высновы, што яго формула і месца, дзе ён праводзіцца, супалі вельмі ўдала. Беларусь знаходзіцца на мяжы ЕС, а Беласток з'яўляецца яе такой візітнай карткай з другога боку нашай мяжы. Калі хочам стаць цэнтрам дзелавой актыўнасці, лепш даведацца пра партнёраў, часцей сустракацца і лепш зразумець еўрапейскую палітыку і польскую эканамічную палітыку ў гэтым кантэксце. Вялікая перспектыва развіцця ўзнікае на сутыкненні ЕС і Еўразійскага эканамічнага саюза. А самую важную ролю могуць адыграць Польшча і Беларусь. Абедзве нашы краіны могуць быць карысныя не толькі для сябе, але і для гэтых аб'яднанняў. Польшча можа дапамагчы нам адаптавацца ў сумесных праграмах, супольных інвестыцыях, у адукацыйнай прасторы. Мы можам сумесна рабіць стаўку на веды людзей, на моладзь, на сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі. Польшча і Беларусь у гэтым моцныя. Акрамя таго, прыватны бізнес у Беларусі здольны стаць удзельнікам міжнародных праектаў. Мае ўжо канкрэтны капітал не толькі інтэлектуальны, але і рэальны, фінансавы. Гэта нашы гандлёвыя і гатэльныя сеткі, больш за дзве тысячы турыстычных гаспадарак, якія ўзніклі па прыкладзе польскіх, і турбізнес у цэлым, а таксама івент-турызм, каб не толькі прыехаць і паглядзець. Мы павінны адаптаваць, несумненна, установы, ідзем па шляху развіцця кластараў і інавацый, разнастайных альтэрнатыўных відаў энергетыкі, таму што сапраўды хочам быць энергетычна незалежнымі. Імпарт з Расіі газу і нафты вельмі нас прывязвае да гэтага рынку, а ён вельмі няўстойлівы. Патрэбна і нам, так як і вам, дыверсіфікацыя. Зразумелі ўжо і нашы палітыкі, што сапраўдная незалежнасць нашай краіны і свабода прадпрымальніцтва звязана з тым, што не павінна быць дамінанты толькі адной краіны, адной сталіцы.





Некалькі разоў падчас дэбатаў Кангрэса вярталася тэма сітуацыі на польска-беларускай мяжы і да гэтага часу заблакаванай беларускім бокам дамовы аб малым памежным руху. Аб гэтых пытаннях разважалі ў асноўным падчас сесіі «Памежжа і прыгранічны рух — эканамічныя і грамадскія аспекты». У яе ходзе начальнік Мытнай службы, намеснік міністра фінансаў **Яцэк Капіца** пераконваў:

— Мы хочам выкарыстаць перыяд палітычных турбуленцый, у выніку якіх паменшаў рух на мяжы, на мадэрнізацыю і развіццё памежнай інфраструктуры.

Адзначыў, што з 2014 года, пасля ўвядзення ўзаемных санкцый, бачыцца відавочны спад у гандлі таварамі з Расіяй і Беларуссю — на каля 15 адсоткаў, а з Украінай — на 20 адсоткаў:

— На палітычным узроўні адносіны астылі, але на практычным узроўні стараемся падтрымліваць добрыя адносіны. У мяне вельмі добрыя кантакты з кіраўнікамі мытных службаў Расіі, Беларусі і Украіны.

Закрываючы сёлетні Усходні эканамічны кангрэс, **Войцех Кусьпік**, старшыня Польскай асацыяцыі па садзейнічанню прадпрымальніцтву, задумшчык кангрэса і яго галоўны арганізатар, сказаў, што ўсё паказвае на тое, што ў наступным годзе зноў пройдзе ён у Беластоку.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# Бабіна лета ў Міхнаўцы

■ Вера Радзіванюк (справа) і Галена-Марыёля Рэент

У ціхую бязветраную вераснёвую яшчэ суботу ў прыпушчанскай вёсцы ў Нараўчанскай гміне шыкавалася сакрэтная сустрэча. Не зусім таямнічая, бо інфармацыі паказаліся і на каляровых афішах, і ў інтэрнэце ды на радыё, але вестка аб тым, што імпрэза будзе адмысловая, з яе нагоды, гераіня свята даведалася апошняй. А імпрэзу шыкавалі як на якое вяселле — у цёплай святліцы, куды запрашае ўсіх Згуртаванне „Сторчык” («Ятрышнік»), запахацела, як вельмі часта ў гэтым файным будыначку, смачнымі стравамі. На пляцы перад святліцай сабралася аўтамашын сапраўды як на якісь фэст. Прыехалі нават улады гміны, самаўрадаўцы. І калегі па пяры Веры Радзіванюк, у тым ліку нядаўні дэбютант сярод аматараў пісьменства з Нараўчанскай гміны, яе сын Аляксандр. Прыехалі сябры-паэты і з іншых вёсак — Янка і Кастусь Целушэцкія, на Кастусёвым самаходзе. Цяпер сюды, у Нараўчанскую гміну, або на сваіх дваіх, альбо на роварах — бо ніяк не даедзеш: у Ляўкова, Лешукі ці Міхнаўку — ані разу! — ні ўвечары, ні ранкам, з такога Беластока, аўтобусам ПКСу. А ў самую Нараўку раз пасля абеду, і раненька, праз Семяноўку. Зноў абмінаючы той ляўскоўскі закутак. Войт гатоў заплаціць вялікія грошы ПКСу, але ўладам фірмы гэты грошы непатрэбныя, як непатрэбныя пасажыры, асабліва такія, у гадах Веры Радзіванюк. Проста, пажылыя, слабенькія. Старажылы як старыя дрэвы ў пушчы — як такі ляжа, дык і не ўстане, пэўна, няма чаго яго чапаць... Але на літаратурны конкурс беларускай паэзіі і прозы «Дэбют» дабяруцца — з гэтай гміны найбольш удзельнікаў з усёй краіны! І старых, і малых. Даедуць на ўрачысты фінал усе разам, у паўнюткім аўтобусе, на якім праезд у Беласток зафундуе свaім «візітным картачкам» войт Мікалай Павільч. А з кожнай сустрэчай, якую арганізуе спадарыня Галена-Марыёля Рэент, дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы, заснавальніца «Ятрышніка» разам з паняй Альжбетай Кунцэвіч, паяўляюцца новыя дэбютанты. Не толькі, бачыце, адно песня і танцы вабяць шматлікую публіку па вёсках у Нараўчанскай гміне на такія беларускія сустрэчы. Людзі чакаюць, слухаюць, захапляюцца, смяюцца, хвалююцца...

„Сяло Міхнаўка, — пісаў Эдуард Вайсковіч у „Ніве” ў 1976 годзе, — што ў Нараўчанскай гміне, гранічыць з Лешукамі, а ад поўначы прылягае да ракі Нарвы. Яшчэ пры старой Польшчы сяло было разбіта на калоніі і кожны пабудаваўся на сваёй сялібе. Гаспадарскія сялібы тут абгароджаны, з садамі. Сярэднія гаспадаркі ад 5 да 10 га. Хоць зямля IV і V класаў, людзі дабіліся тут добрых ураджаяў”. Цяпер ад гэтых гаспадарак няма амаль следу, але жывуць яшчэ людзі, якія натруджанымі рукамі абраблялі гэтую зямельку, вырошчвалі, гадавалі на ёй жывіну, выхоўвалі дзяцей і адпраўлялі іх у свет. І ў сваім нялёгкім, часам трагічным, паміж драматычнымі падзеямі, якія кранaлі не толькі іх, жыцці, — бачылі і бачаць прыгожае. І тую красу выпраменьваюць з сябе — ці то ў вершы, ці ў карціне ці вышыванцы, ці проста ў ціхім, але актыўным жыцці. Таксама збіраючымся ў светлым месцы — на тое і яна — святліца. Тут, у Міхнаўцы, прыгожая яна звонку і ўнутры, утульная і са святочным ды свойскім кліматам.

Спадарыня Вера Радзіванюк, як і ўсе сябры «Ятрышніка», на такія сустрэчы, якія для ўсіх з'яўляюцца нейкім святам, гожа апранутая, у сціплай прычосцы, якая так ідзе для яе шляхетнага твару. Але хіба здзівілася, калі для яе з-за сталоў паднеслі спецыяльнае крэсла перад аўдыторыяй, а пасля і пані Марыёля, і сябры з Гміннай рады схіліліся перад ёю з падарункамі — спецыяльным кашом з усялякім дабром ды пачкай са святочнай стужкай. Тут у пачцы — яе першая кніга «Бабіна Лета», паэтычны кніжны дэбют у яе восемдзесят два гады! Чытае ціхім голасам вершы з новага зборніка і новага сшытка, дзе няўпэўненай рукой вывела моцныя радкі, як бы вышыла іх каляровай ніткай: *Восень наступіла, апусцела поле. Птушкі паляцелі ў далёкі вырай. Толькі над багном жураўлі курлычуць, збіраюцца разам развітацца з летам. Дрэвы пажаўцелі, стаяць з вялым лісцем, сыплецца на зямлю дыван залацісты*... Быццам тое і бачым за чыстымі вокнамі святліцы, і ў вачах душ — *стаяць хвоі ў задуме і шумяць пад ветрам. Што ім шэпча вецер, што прынёс здалёку? А за той палянай гай расце зялёны, а ў гэтым гаю пташачкі спяваюць... Гэта наш любімы край, родная старонка*...

Вельмі рады асабліва сябры з «Ятрышніка» — згуртавання вёсак Міхнаўка, Лешукі, Ляўкова... і іншых, таму што згуртаванне адкрытае, і на праекты, задуманыя сяброўкамі (усё ж іх больш, чым мужчын), налягаюць, падтрымліваюць у іх рэалізацыі дзяўчаты з іншых вёсак, як радная Барбара Бірыцкая з Семяноўкі. І кожны сочыць за кожным радком спадарыні Веры: *Калі дзень пахмурны, неспакойна часам, думка думку гоніць нібы вецер хмары. Седзячы ў хаце, вельмі многа думак, пра ўсё пражытое, як даўней жылося. За пражытыя гады, што пераждыць прыйшлося, напісаць бы кніжку можа прыдалося б*... Пэўна, з неаднаго жыцця нават тут прысутных на сустрэчы магла б скласціся кніжка. Бо тут усе яны, так сказаць, *неардынарныя*, калі б на чарзе глядзець — і Лёня Хлябіч з Семяноўскага вадасховішча, экстрасенс і палітык, які штогод дорыць камп'ютар найлепшаму вучню, канчаючаму Нараўчанскую гімназію імя Тамары Саланевіч (сёлета паэтэсе з Тарнопаля Наталлі Васько), і сам войт Мікалай Павільч, які з выбару ўладарыць гмінай не першы тэрмін і вельмі дбае пра развой тут культуры, і Галена-Марыёля Рэент, добры дух тае культуры... І арыентуюцца ўсе, хто тут ціхі працаўнік тае культуры, і як можна было б яго неяк узнагародзіць за тую цагліначку, якую рупліва і не за воплескі дакладвае да нашага беларускага дому. Як непрысутны тут на імпрэзе Мікалай Варанецкі, шмат у чым падобны да гэтых цудоўных «дзівакоў», якія не пнуцца да тэлевізійнага шкельца, а робяць сваю гожую працу. І гэта цудоўна, што тая праца бачыцца далей — вось «Ятрышнік» дастаў узнагароду ў II выданні Алімпіяды вясковай актыўнасці за дзеянні, накіраваныя для некалькіх вёсак і гмін. І дзякуючы, між іншым, гэтаму вылучэнню змаглі прафінансаваць кніжачку сваёй найстарэйшай сяброўцы.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



## Адкуль бяруцца фундаментальныя пытанні

Калі чытаю ў «Ніве» пра шматлікія фэсты, фестывалі, трыялогі, або што «І ў Вульцы жывуць людзі ...», не гаворачы пра пастаянны рэпартаж «У палескай глыбінцы», сэрца радуецца, што прынамсі летам актывізуецца беларуская культура ў РП.

А ў верасні, нягледзячы на летняе надвор'е, наглядаецца як быццам восень: «Сотая гадавіна Бельскай бітвы і бежанства», «Магічны цэнтр свету» ці «Моўная русіфікацыя Беларусі» (гл. http://spring96.org) — сур'ёзныя тэмы, бо сягаюць проста праблемы існавання беларусаў як нацыі (гаворка ідзе пра Беларусь). Нягледзячы на «Закон аб мовах», татальная русіфікацыя кожнай галіны жыцця падлягае пастаяннаму прагрэсу, перад усім у адукацыі, культуры, навуцы, адміністрацыі, справаводстве. Дзве часткі артыкула «Моўная русіфікацыя Беларусі» («Ніва» ад 20 і 27 верасня г.г.) уражваюць тым, як таталітарная дзяржаўная сістэма можа не толькі ліквідаваць сябе, але і народ як нацыю. І толькі таму, што некалі, дзякуючы маладой дэмакратыі і наіўнасці колішніх палітыкаў, да ўлады дахозяць асобы, якім улада гэта мэта жыцця. А калі беларусаў як нацыі не стане на тым свеце, дык і дзяржава непатрэбная, з яе чыноўнікамі, уладай, прэзідэнцкай адміністрацыяй — самыя затраты. Тым болей, што прэзідэнцкая адміністрацыя ўжо існуе ў імперыі.

Але пакуль што, не толькі ў Рэчы Паспалітай, але і ў Беларусі настаў перадвыбарчы час. Грамадзяне Беларусі будуць выбіраць прэзідэнта. Уладзімір Хільмановіч аднак кантэстуе ці напэўна, паколькі «беларускі электарат (прабачце і за гэтае замежнае слова) па-ранейшаму жыве сваім жыццём і слаба цікавіцца, што адбываецца навокал. І ніхто не ведае як дастукацца да сэрца і душы гэтага народа. І ці ёсць яны ўвогуле» («Ніва» ад 6 верасня г.г). Значыць, ці сэрца і душа ёсць у народзе? І калі «электарат жыве сваім жыццём», значыць гэта, што яго жыццё ні ў якім выпадку не залежыць ад улады прэзідэнта.

Чытаючы філасофскія фельетоны Міраслава Грыкі, я думаю, што яго ўжо нішто не здзіўляе, але «вось праваслаўны беларус або каталіцкі паляк заяўляе, што пераходзіць на чужы яму ўкультурным плане іслам» і «ці можна гэтаму здзіўляцца?» — пытае знакаміты ніўскі фельетаніст — «можна, а нават трэба». Не быў бы Міраслаў Грыка філосафам, каб не сканстатаваў, што ад здзіўлення «бяруцца фундаментальныя пытанні», якія з'яўляюцца асновай «гомо сапіенс». Бо толькі чалавек свядома сябе адчувае, толькі яму характэрная мудрасць, толькі чалавек можа здабыць нейкую мудрасць. А калі нейкія асобені жывуць сваім жыццём, і калі іх хата з краю?

Пакуль што, без здзіўлення, чытач «Нівы» прачытае парафіласофскую карэспандэнцыю з-над мора.

Міхась КУПТЭЛЬ

## Канчаецца сезон

Ідзе восень і набліжаецца канец сезона збірання лекавых зёлак. Летам была суша, але, як мне расказвалі на пунктах скупкі, зёлак было ўдосталь. Вынікла нават праблема — няма таго ранейшага збыту на зёлкавыя сумесі. Зёлкі ўсё ж купляюць, хаця за некаторыя з іх менш плацяць.

Зараз суполка „Руно” ў Гайнаўцы плаціць за кілаграм сушанага лісця брусніцы 12 злотых, ажыны — 5 зл., падбелу — 8 зл. (летам плацілі 10 зл.), крапівы, дзьмухаўца і трыпутніку (babki) — па 7 зл. ды вярбы і ясеня — па 3,50 зл.

За зелле святаянніку (dziurawca) плацяць 3 зл., ясноткі (глухой крапівы) — 7,50 зл., палыну — 3 зл., адуванчыка — 4 зл., крываўніка — 4,50 зл. і жывакосту — 2 зл. (летам плацілі 4 зл.), чабору (macierzanki) — 10 зл. і крапівы — 2,50 зл. за кілаграм.

За кілаграм сушанага карэння дуброўкі (pięciornika) можна зарабіць 15 злотых, конскага шчаўя (kobylaka) — 7 зл., крапівы — 5 зл., лопуху — 10 зл., адуванчыка — 12 зл., жывакосту — 6 зл. (тут былі цэны такія як і ўлетку).

Купляюць таксама кару дуба ды вярбы і плацяць 1 зл. за кілаграм, каліны — 12 зл., ясеня — 3 зл. і крушыны — 3,50 зл. (яц)


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Мудрыя дзеткі з Белавежы





Гэта былі чыстая радасць і захапленне. Наймалодшыя навучэнцы беларускай мовы і іх настаўніца Анджаліна Масальская гучным хорыкам праспявалі песеньку «Мы — першакласнікі». Пасля грымнула «Прывітанка» і вершыкі. Дзеткі пазнаёміліся з «Зоркай» і засыпалі нас мудрымі пытаннямі.

— У якім класе вы навучыліся беларускай мове? — спыталі яны мяне.

Гаварыць па-беларуску я навучылася ў дзяцінстве, ад сваіх бацькоў. Таксама ўсе дзеці, з якімі я гуляла ў розныя гульні і забавы, гаварылі па-беларуску. Толькі ў школе мы пачалі вывучаць польскую мову. Тады было ўсё наадварот, чым цяпер. Беларуская мова была мовай, на якой дзеці размаўлялі з мамай і татам, з сябрамі на перапынках, на вуліцы, у магазіне.

Белавежскія дзеці ўсё зразумелі:

— A mój dziadek i babcia czasem romawiają po białorusku, — пахваліўся адзін першакласнік, — a prababcia to cały czas rozmawia po białorusku...

— A mój dziadek i babcia, — перабіла сяброўка, — to nawet się kłócą po białorusku...

З гэтай размовы атрымалася адна выснова. Дзеці разумелі, што каб размаўляць па-беларуску, не трэба жыць у Беларусі. Яны ведалі, што так могуць размаўляць іх сваякі, людзі з суседства. Яны таксама ведалі, што ёсць беларускія пісьменнікі і кніжкі. Якраз у той самы дзень у школе рыхтаваліся да беларускай вечарыны. У школу запрасілі пісьменніка Міхася Андрасюка з Гайнаўкі. Каб прыгожа прывітаць госця, дзеткі з гурта «Сунічка» прыдумалі музычны падарунак. А каб сустрэча яшчэ больш «пасмакавала», школьныя кухаркі рыхтавалі для ўсіх пачастунак. У школе панаваў настрой свята і цікавай прыгоды.

**Брава, спадарыня Анджаліна!**

*(Больш пра беларускія вечарыны і нашых сяброў з Белавежы, чытайце ў наступных нумарах "Зоркі".)*

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

Юлія ЛЯСОТА
ПШ у Нараўцы

## Вецер

Вецер вее, лісточкі зрывае
І жыццё так прабягае.
Годзікі праходзяць.
Мы штогод старэйшыя
Пераходзім з класа ў клас.
І ўсё мудрэйшымі
становімся якраз.

Уршуля МАРЧУК
Гімназія ў Нараўцы

## Лаўка

На вуліцы стаяла лаўка,
а на лаўцы сядзеў чалавек.
Ён быў вельмі маркотны і
думаў пра тое,
што будзе з ім
праз некалькі гадоў.
Думаў пра сваё жыццё,
пра сябе,
хаця ён не эгаіст.
Думаў пра сябе,
бо ён сам,
як калок у плоце.

## ЗАГАДКІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ
*(кіргізская казка)*

У адным царстве жыў справядлівы хан. У яго не было дзяцей. Перад смерцю ён паклікаў народ:

— Калі пamру я, мой белы сокал не будзе есці і піць тры дні. На чацвёрты дзень дайце яму есці і адпусціце на волю. І тады глядзіце на знак. На чыю галаву сядзе белы сокал, той стане вашым ханам...

Пасля некалькіх дзён хан памёр. Людзі зрабілі як прасіў, выпусцілі белага сокала. Ён доўга кружыў у высі ды прысеў на галаву маладога пастуха Балотбека.

Тады людзі абвясцілі:

— Хай гэты хлапец стане нашым ханам!

І стаў Балотбек мудрым, справядлівым царом. Аднойчы наведалі яго старыя і пачалі прасіць, каб хан ажаніўся. Балотбек адказаў:

— Добра, паклічце ў мой двор усіх дзяўчат нашай краіны!

Як загадалі, так і зрабілі. Прыйшлі ўсе багатыя дзяўчаты. Выйшаў да іх Балотбек і кажа:

— Тая, каторая адгадае мае тры загадкі, стане царыцай.

Прыгажуні лавілі кожнае слова, усе хацелі пайсці замуж за добрага, справядлівага хана. Яны пакуль не думалі як разгадаць загадкі. А загадкі такія:

1. Якая адлегласць між усходам і захадам?
2. Якая адлегласць між небам і зямлёй?
3. Якая адлегласць між праўдай і хлуснёй?

На разгаданне загадак хан прызначыў тры дні. Думалі дзяўчаты, думалі, нічога не прыдумалі. У дарозе ў двор яны пабачылі маладзенькую служку. Яна спытала: «А чаму багатыя дзяўчаткі сумныя?». Тыя ўсё расказалі. Служка выслухала загадкі і рушыла іх следам. Калі яны з'явіліся ў двары, хан узняў голас:

— Ну, хто адгадаў мае загадкі?

Усе маўчалі. Тады адазвалася маладзенькая служка. Яна сказала:

1. Між усходам і захадам адзін дзень дарогі. Таму што сонца раніцай пачынае сваю вандроўку на ўсходзе, а вечарам канчае на захадзе.
2. Паміж небам і зямлёй адлегласць невялікая. Падымеш вочы ўверх, бачыш неба. Глянеш уніз, бачыш зямлю.
3. Адлегласць між праўдай і хлуснёй — чатыры пальцы. Столькі складае адлегласць паміж вачыма і вухам. Вуха чуе хлусню, а вочы заўсёды бачаць праўду.

Адказы спадабаліся хану і ён узяў за жонку простую дзяўчыну. Жылі яны доўга і шчасліва. А вам спадабаліся адказы дзяўчыны?

***(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)***

# Арляне архівуюць спадчыну



Школа ў Орлі — гэта банк ідэй. Тут, пад вокам настаўнікаў і працаўнікоў культурных устаноў, выспяваюць каштоўныя праекты. Яны засяроджаны на мясцовай традыцыі. Дасканалым прыкладам тут Лічбавы архіў лакальнай традыцыі. Моладзь, пад кірункам дарослых, збірае ўспаміны і здымкі ў мясцовых людзей, пасля іх апрацоўвае, алічбоўвае і сканue. Яны ўжо сабралі матэрыялы ў Тапчыкалах, Спічках, Крывятычах, Орлі. Самыя каштоўныя крыніцы трапяць на сайт **www.orla.archiwa.org**.

Іншай каштоўнай прапановай з'яўляецца рэканструкцыя даваеннай Орлі. У школе будуюць гліняны макет сваёй мясціны, каліс вядомага наўкруг мястэчка.

— У гэтым праекце могуць прыняць удзел усе ахвотныя вучні, — паясняе дырэктар Марыя Тамчук. — Тут задачы для вучняў кожнага ўзросту. Адны любяць ляпіць нешта з гліны, іншыя шукаюць інфармацыю пра колішні выгляд мястэчка. Ужо само параўнанне назваў вуліц прыносіць шмат ведаў і роздумаў. Макет дае магчымасць паназіраць, як цягам апошняга стагоддзя мянялася мясцовасць.

— Думаем, таксама пра пастаноўку, — дадае спадар Дар'юш Гарадэцкі. — Такі спектакль выдатна ажывіць макет.

У школе ганарацца таксама апошнім поспехам у Агульнапольскім конкурсе «Пазнай бацькаўшчыну», які праходзіў у Калішы. Іх фільм датычыў сімволікі кветкі ў народнай традыцыі... На сустрэчы з навучэнцамі беларускай мовы гаварылі пра конкурс «Роднае слова» і «Пазнай Беларусь». У апошнім конкурсе найбольш было малюнкаў.

У школе таксама адзначылі 90-годдзе паэта Віктара Шведа. Як вядома, слаўны юбіляр праз нейкі час вучыўся ў Арлянскай школе. Тут пачаў пісаць свае вершы...

А што новага ў жыцці школы? Ад верасня пачаў працаваць электронны журнал, класныя кабінеты папоўніліся мультымедыйнай і аўдыётэхнікай, з'явілася новая мэбля і абсталяванне ў прадшкольных аддзелах, у якіх прыстойны лік дзетак.

Зараз у школе 213 вучняў з 14 мясцовасцей. Прыблізна палову давозяць на школьных аўтобусах з розных вёсак. Больш за 60 адсоткаў вучняў ходзіць на ўрокі беларускай мовы. Гэты прадмет навучаюць тры спадарыні Марыі: Марыя Саевіч, Марыя Лемеш і дырэктар Марыя Тамчук.

**Зорка**
**фота Ганны КАНДРАЦЮК**

## Вершы Віктара Шведа



### Будуць канікулы

Настаўнік паклікаў
Да адказу Данеля:
— Якая ў множным ліку
Форма слова «нядзеля»?

Вучню асцярожна
Падказвае Ліда:
— Па-мойму ў ліку множным
«Канікулы» будуць!

### Ён вінаваты

Вучняў настаўніца пытае:
— Чаму набілі Мікалая?
— Ён памылкова, нестаранна
Выканаў хатняе заданне.

— Чаму ж набілі, мне цікава?
Гэта ж яго выключна справа!
— Ды ўсе мы ад яго спісалі,
Таму ў нас вельмі многа жалю.

**Аляксандра САЛАВЯНЮК**
**ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку**

### Лісток

**Клён працягнуў**
**да мяне руку і сказаў:**
**— Хочаш, унуку,**
**маю руку?**
**І я сарвала асенні**
**каляровы лісток.**

## Польска-беларуская крыжаванка № 41-15

Plon
Tort
Jawa
Laur
Bór
Plaża
Czoło
Król
Pies
Sroka
Ząb
Liczba
Era
Jutro
Jak
Re
Żubr
Punkt
Zbór
Żaba
Sala
Ala
Anatol

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 37:**
Міф, сага, трон, кіно, кісель, бот, малако. Міг, кот, міс, неба, стол, ар, гоп, аніхто. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Сара Скаўронская**, **Наталля Матылька**, **Рафал Аксецяюк**. Віншуем!

**Ніл Гілевіч** — народны паэт Беларусі, сатырык, празаік, нязломны барацьбіт за беларускую мову, дэпутат Вярхоўнага Савета ды заснавальнік Таварыства беларускай мовы. 30 верасня Нілу Сымонавічу споўнілася 84 гады. Прапануем вашай увазе інтэрв'ю з Юбілярам, якое для Радыё Рацыя ўзяў Адам Завальня.



# Мне трэба беларуская Беларусь!!!

**Адам Завальня: — Ніл Сымонавіч, Вы напісалі свой першы верш „Клятва" ў 15 гадоў, і ўжо тады першай тэматыкай была не прырода, не каханне, не нешта іншае, а мова. Адкуль у Вас было такое памкненне?**

Ніл Гілевіч: — Я думаю, што памаглі мне выбраць для верша гэту тэму вялікія мае паэтычныя настаўнікі. Па тым часе гэта перш за ўсё Францішак Багушэвіч і Янка Купала, услед за імі — Максім Багдановіч. Гэта па меры таго, як я знаёміўся з гэтымі вялікімі імёнамі, з творчасцю гэтых волатаў. Што датычыць самога пачуцця любові, захаплення мовай, то гэта ад калыскі, ад маці. Жыў у гэтай стыхіі моўнай, з першых дзён. Цяжка растлумачыць, як гэта складваецца. Так атрымалася, што вельмі дорага мне было слухаць, як гучыць беларуская песня. Менавіта беларуская народная. Песень гучалі дзясяткі, сотні, і з кінафільмаў яны ўсе былі на рускай мове. А вось нашы песні, якія пелі ў нас у застоллі... У нас кожныя два гады з'яўляўся ў сям'і новы жыхар, спраўляліся хрэсьбіны, склікалася радня, суседзі, сябры. Як я бывала слухаў, як нашы вясковыя жанчыны пяюць народныя старыя песні. Затым мне ўсё маладое жыццё, пакуль я не стаў сам на ногі, не набыў сваіх эстэтычных крылаў, мне дапамагалі класікі нашай літаратуры. Страшэнна любіў чытаць і вучыць на памяць вершы паэтаў. І тых, якіх я назваў, і дадам сюды Якуба Коласа, а тады ж і Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, якія былі для мяне жывымі класікамі. І па кнігах прозы: памятаю, якое незвычайна моцнае ўражанне зрабіла на мяне знаёмства з прозай Кузьмы Чорнага. Многа далі мне ў маладыя гады Янка Брыль, трохі пазней — Міхась Лынькоў, Іван Мележ ды іншыя. Пасля прыйшло цвёрдае перакананне, што такое мова ў лёсе народа, і што такое мова для пісьменніка, для паэта. Яшчэ ў тыя гады пачуў: „Ёсць мова — ёсць пісьменнік, няма мовы — няма пісьменніка". Я ўжо ўсё чытаў так пільна, каб калі якое вельмі яркае каларытнае слоўца напаткаў, я яго браў у свой моўны арсенал. У мяне ёсць тры тоўстыя нататнікі-слоўнікі, якія пачаў сабе запісваць яшчэ нават у педагагічным вучылішчы. На добры лад варта было б з імі пазнаёміць і чытачоў, як я ўзбагачаўся скарбамі роднай мовы. Калі б мне хапіла сілаў яшчэ пратрымацца, можа б я і абнародаваў іх для філолагаў і моладзі, каб пацікавіліся, як паэт „узбройваўся" жывінкамі роднай мовы.

**— Ваш першы верш быў напісаны ў 1947 годзе, мінула ўсяго 3 гады пасля нямецкай акупацыі. Вы вучыліся пры немцах у школе?**

— Мне не так пашанцавала, як некаторым маім равеснікам. Мой аднагодка Алег Лойка, вядомы літаратар, прафесар, калега па працы, усе тры гады акупацыі вучыўся ў беларускай школе, бо ён жыў у горадзе, у Слоніме, там партызаншчыны не было. Мне пашанцавала менш, я вучыўся ўсяго адзін год — з 1941 па 1942. То-бок, да вайны скончыў 3 класы, пад немцамі — чацвёрты клас. Тады школы, паколькі лічыліся калабаранцкімі, што не ў тым духу выхоўвалі, то іх пазакрывалі. У Гайне, у суседняй вёсцы, я месяца не пахадзіў: новы вялізны будынак партызаны спалілі, каб немцы не маглі гарнізон паставіць. Гэта было звышнеразумна. І тры будынкі ў маёй вёсцы партызаны разабралі. Гэта было дзіка. Мне заставалася займацца самаадукацыяй, чытаць кнігі. Прыйшлі немцы, а бібліятэкі ж засталіся. Людзі іх разабралі. Цёмныя мужыкі — на курыва, на цыгарэты — паперы ж не было. Але старшакласнікі і больш-менш пісьменныя людзі трымалі гэтыя кнігі. Можна сказаць, што наступныя два гады да вызвалення я чытаў кнігі, шмат чытаў кніг. Трапляў у рукі часопіс „Беларуская школа", які выдаваўся пад немцамі ў Менску. Там друкаваліся педагагічныя матэрыялы, дыдактычныя і мастацкія творы. У адным з нумароў я ўпершыню прачытаў геніяльны верш нашага вялікага паэта Алеся Гаруна: „Ты, мой брат, каго зваць беларусам, роднай мовы сваёй не цурайся, як не зрокся яе пад прымусам, так і вольны цяпер — не зракайся!". Гэта імя было тады забаронена ў савецкай беларускай літаратуры. Калі яго і ўзгадвалі, то толькі як ворага савецкай улады, як „нацдэма". А гэта наш вялікі паэт, адзін з самых выдатных. Так што год вучобы ў той школе ды два гады самаадукацыі мне далі нямала. У „Беларускай школе" я прачытаў раздзелы „Новай зямлі" Коласа. Як зараз бачу гэтыя часопісы з малюнкамі, раздзел „Раніца ў нядзельку" я на памяць вывучыў. Я ж любіў беларускае слова, беларускую мову, таму, як пачну чытаць, яно запаміналася само. Я ўвесь раздзел ведаў на памяць. Так што ў мяне не начыста прапалі тыя тры гады.

**— Пасля таго, як зноў усталявалася савецкая ўлада, усё больш і больш уціскалася беларуская мова. Гэты боль заўважны ў Вашых творах. Вы ўвесь час выступалі ў абарону беларускай мовы падчас „застою", у тым ліку на Пленумах ЦК КПБ. Пазней, як ужо пачалася „перабудова", Вас абралі народным дэпутатам у Вярхоўны Савет і Вы распрацавалі праект Закона „Аб мовах". Як тады ўдалося прапіхнуць закон аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове?**

— Да пачатку „перабудовы" я добрыя два дзясяткі гадоў ва ўсю змагаўся за беларускую мову ў Беларусі, у Маскве, на пісьменніцкіх з'ездах, сходах, у друку, у артыкулах. Я быў дэпутатам Вярхоўнага Савета і XI, і XII скліканняў. Закон аб мовах быў прыняты яшчэ XI скліканнем Вярхоўнага Савета. Я прымаў удзел у выпрацоўцы гэтага закона, яго складанні. Я быў старшынёй камісіі па выпрацоўцы Закона „Аб мовах". Калі я стаў дэпутатам XII склікання, быў вельмі засмучаны, бо вельмі мала дэпутатаў былі маімі аднадумцамі, паплечнікамі, якія цалкам стаялі на такіх жа пазіцыях у дачыненні да мовы, да нашай культуры, да гісторыі. Пераважная большасць былі або чыноўнікі, савецкія, партыйныя, або „гаспадарнікі" — старшыні калгасаў ды іншыя. Сярод такіх быў сённяшні кіраўнік дзяржавы Лукашэнка. Яны мяне не падтрымлівалі, а наадварот — па магчымасці пярэчылі, іншы раз нават іранічна стараліся ўкалоць. Я сцвярджаў адно: „Дарагія мае, нічога. Пройдзе нейкі час, і Вы ўсе зразумееце, што Вы памыляецеся. І калі Вы хочаце, каб Беларусь заставалася Беларуссю, каб беларускі народ быў беларускім народам, Вы прыйдзеце да ўсведамлення гэтай ісціны, і самі станеце на гэту верную дарогу". Дарэчы, мне вядома, што некаторыя з тых дэпутатаў, якія былі разам са мной у Вярхоўным Савеце, зразумелі. Але, тым часам, нарастала моладзь. Сярод той нязначнай часткі дэпутатаў, з якімі вельмі актыўна працавалі ў Вярхоўным Савеце, перш за ўсё, канешне, назаву кіраўніка апазіцыйнай групы Зянона Пазьняка, але і пры ім многа хлопцаў было, якія стаялі на такіх пазіцыях, як стаяў Ваш пакорны слуга.

**— Так здарылася, што ў 1994 годзе кіраўніком краіны стаў чалавек, які раней выступаў супраць адзінай дзяржаўнай беларускай мовы. Урэшце, потым ён і зрабіў расейскую мову дзяржаўнай, пачаўся заняпад нацыянальнай культуры. Беларусь атрымала шанц незалежнасці, але да ўлады прыйшоў чалавек, які быў супраць гэтай незалежнасці.**

— Гэты чалавек быў выбраны беларускім народам. Ва ўсялякім разе, больш за палову беларускага народа былі вясковыя людзі, палітыкай не жылі, не цікавіліся. Ім спадабалася, што да кіраўніцтва краіны, на змену партыйна-савецкім бюракратам, прыйдзе чалавек з народа, які быў старшынёй калгаса, працаваў, так бы мовіць, з мужыкамі на зямлі, гэта ім вельмі імпанавала. Яны ўсе аддалі яму голас, таму што канкурэнтам быў старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч. Ды ніколі вясковыя людзі, рабочы народ, армейцы ды іншыя не маглі прагаласаваць за нейкага чыноўніга бюракрата! А хто тады з народных масаў ведаў, чым хто дыхае? Якой любоўю ці нянавісцю да мовы, нацыянальнай культуры, гісторыі? Ведалі адзінкі ў Вярхоўным Савеце. І пачало тады адкрывацца, што нам не пашанцавала. Да ўлады прыйшоў чалавек, які не толькі не падтрымаў тых, хто змагаўся за родную мову, не далучыўся да таго змагання, якое было вельмі пільнае — трэба было выпраўляць становішча, якое склалася за дзясяткі гадоў, калі мова душылася, душылася, душылася. Ён не толькі не падтрымаў, а пачаў ініцыяваць рэферэндумы, адмяніў Закон „Аб мовах". Я яшчэ тады быў член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, як я голас зрываў, прасіў, крычаў, заклінаў дэпутатаў, не рабіце гэтага глупства, ніякага роўнага двухмоўя не будзе, убачыце, што ўсё зноў скоціцца да адной мовы. Так і стала: літаральна праз месяцы пачалі закрывацца беларускія школы, беларускія газеты. І стала тое, што мы маем сёння. Звялі на нішто беларускую мову ў дзяржаўных установах, газеты лічаныя засталіся, і тыя — прыватныя. Колькасць дзяржаўных кніг — адзінкі. Тыя, што выходзяць на беларускай мове, гэта недзяржаўныя, гэта насуперак дзяржаўнай палітыцы. Тое, што ў нас яшчэ трымаецца там-сям мова, гэта не дзякуючы дзяржаве, якая абавязана спрыяць развіццю мовы свайго народа, а насуперак ёй. Нідзе ў свеце такога няма! Каб сябры роднай мовы змагаліся за яе са сваёй жа роднай дзяржавай! На жаль, яна на сённяшні дзень пакуль што нярodная.

**— Ужо 2 гады, як у нашым рэгіёне, ва Усходняй Еўропе вострая сітуацыя. Лунаюць думкі, што беларусам цяпер не варта змагацца з уладай, што Лукашэнка можа абараніць незалежнасць, што ён, так бы мовіць, „гарант беларускай незалежнасці". Вы яго добра ведаеце, калі ён яшчэ быў у Вярхоўным Савеце. Што б Вы маглі сказаць людзям, якія пашыраюць гэтыя меркаванні?**

— А я пра гэта сказаў нядаўна. Адзін артыкул мой заканчваўся: „Вам трэба незалежная Беларусь, і мне трэба незалежная Беларусь. Вам якая трэба незалежная Беларусь, беларуская ці руская Беларусь?". І апошнія словы ў гэтым артыкуле: „Мне небеларуская Беларусь непатрэбна! Мне трэба беларуская Беларусь! Свабодная, незалежная, гэта ўсё добра, але мне трэба беларуская Беларусь!". Што з таго, што Беларусь будзе незалежнай, але яна ўжо не будзе Беларуссю! Гэта будзе такая частка Расеі. Якая краіна незалежная без сваёй мовы? Прычым, каб мы яе не мелі, а то тысячу гадоў мелі сваю мову! Канешне, правадыры будуць мець уладу, і што? Гаварыць са сваім народам як і сёння? Ні адзін міністр на мове народа не гаворыць з народам. Гэта страшная дзікасць. Дзе ў свеце ёсць, каб кіраўнік дзяржавы не гаварыў з насельніцтвам на мове гэтага народа.

**— Якое Вы бачыце выйсце для нашага народа, каб змяніць, палепшыць сітуацыю?**

— Паколькі я не прыхільнік вайны, я супраць крыві, не хачу, каб кроў пралівалася. Я вялікія надзеі ўскладаю на асветніцка-прапагандысцкую работу. Кожны малады чалавек мог вырасці ў нашых умовах зусім з іншай свядомасцю, магло б не быць гэтай любові да Бацькаўшчыны, да роднай мовы, як няма ў тысячаў і тысячаў маладых людзей. Але ж у тысячаў і тысячаў ёсць гэта любоў. Дзякуючы чаму? Дарослыя свядомыя патрыёты памаглі. Як некалі мне ў дзяцінстве памаглі Багушэвіч, Купала, Багдановіч, так і сёння памагаюць і паэты, і пісьменнікі, і навукоўцы, і грамадскія дзеячы, якія легальнымі спосабамі змагаюцца, пратэстуюць супраць становішча, у якім апынулася мова наша, культура. Праводзяць пікеты, мітынгі, сходы, утвараюць дзясяткі арганізацый, у якія запрашаюць маладых людзей, каб гэтыя маладыя

працяг ☞ 11

# Шлях да ўзаемнасці

**25 верасня ў падбеластоцкіх Ігнатках-Аседлі адбылася XXI Міжнародная навуковая канферэнцыя з цыкла „Шлях да ўзаемнасці”, ладжаная Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Кафедрай беларускай філалогіі Беластоцкага ўніверсітэта ў супрацоўніцтве з Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы (ГрДУ) ды тамашнім аблвыканкамам. У першай, агульнай частцы канферэнцыі, даклады зачыталі Збігнеў Анташэўскі з Універсітэта імя Яна Каханоўскага ў Кельцах, Ала Баранава з мінскага Дзяржлінгвуніверсітэта, Дзмітрый Караў ды Святлана Марозава — абое з ГрДУ і Тадэвуш Стружэцкі з Беларускага фонду культуры ў Мінску.**

Цікавым было выступленне спадара Анташэўскага наконт польскай усходняй палітыкі. Дакладчык крытычна паставіўся да некаторых бягучых аспектаў гэтай палітыкі. Напрыклад, аўтар палічыў няўдалымі аргументы за зносам помніка генералу Чарняхоўскаму, якога польскія ініцыятары таго зносу абвінавачваюць у ліквідацыі акаўскіх фарміраванняў на Віленшчыне. Выступоўца сцвердзіў, што ўсюды францаваяа армія, а менавіта ёю камандаваў Чарняхоўскі, ставіць у падпарадкаванне збройныя фармацыі ў яе зоне дзеяння, а калі тыя ёй не падпарадкоўваюцца, яна іх папросту ліквідуе; гэта не толькі савецкая прагматыка, але ж і амерыканцы гэтак жа сама забяспечвалі сабе тылы, напрыклад, у Бельгіі. Адносна адмовы беларускімі ўладамі прызнання тамашнім акаўцам статуса ваенных ветэранаў, дакладчык паінфармаваў, што каля паловы асабовага складу тых фарміраванняў састаўлялі ўцекачы ад прызыву ці то ў Савецкую Армію, ці то ў Польскае Войска. Да таго ж шмат якія атрады не далі бою фашыстам, затое займаліся звычайным марадзёрствам. І на тэму Усходняга партнёрства аўтар выказаў меркаванне, якое адсутнічае ў нашых сродках масавай інфармацыі, менавіта тое Партнёрства было зладжана Польшчай дзеля падкопвання расійскіх інтарэсаў, таму, напрыклад, удзел Польшчы стаў непрымальным у міжнародных размовах наконт мірнай развязкі ўкраінскага канфлікту.

Ала Баранава гаварыла пра польска-беларускія адукацыйныя сувязі, а Дзмітрый Караў — пра беларусазнаўства ў Польшчы. Абодва выступленні можна рэзюмаваць сцвярджэннем, што ў гэтых галінах можна чакаць большага. Святлана Марозава вельмі займальна і змястоўна падвяла гістарыяграфічнае асэнсаванне ролі Супрасльскага манастыра ў інтэлектуальным жыцці Вялікага Княства Літоўскага. Тадэвуш Стружэцкі таксама панаракаў на актуальны стан польска-беларускага культурнага супрацоўніцтва; напрыклад, апошнія Дні культуры Беларусі ў Польшчы адбыліся дваццаць гадоў таму, польска-беларускія пагадненні наконт культурных ініцыятыў падпісваюцца, але не ажыццяўляюцца, напрыклад, узвядзенне помніка Янку Купалу і Якубу Коласу ў Варшаве ці супольнае ўнясенне Аўгустоўскага канала ў спісак сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Гэта столькі наконт агульнай, уводнай часткі канферэнцыі. Далейшыя даклады адбываліся ў пяці паралельных секцыях: дзвюх моваазнаўчых, літаратурнай, культурнай і гістарычнай. Мне найцікавейшай падалася апошняя, таму і рашыў я прыслухоўвацца яе ходу.

Ксёндз Войцех Гузевіч з філіі Вармінска-Мазурскага ўніверсітэта ў Элку, гаворачы пра этнічна-культурныя працэсы ў раёне Сапоцкіна, адзначыў, што найбольшыя змены ў гэтай сферы адбыліся там у часы царскага і савецкага панавання, аднак яго даследаванні былі зведзены толькі да гэтага перыяду, абмяжоўваючыся да канстатацыі, што ў эпоху Першай Рэчы Паспалітай розныя людзі жылі там у згодзе.

Аляксей Загідулін з ГрДУ гаварыў пра пратэстантызм у Беларусі і карэляцыю яго вернікаў з нацыянальнай свядомасцю. Асноўную масу неафітаў гэтай плыні складалі ў міжваенны перыяд праваслаўныя беларусы, расчараваныя менавіта праваслаўем. Наогул былі гэта маладыя людзі, якіх, магчыма, прыцягнула аслабленне пазіцый праваслаўя, падарваных з аднаго боку палітыкай бальшавікоў і польскіх улад з другога боку. Да таго ж Царква і Касцёл успрымаліся суб'ектамі русіфікацыі і паланізацыі. У XVI ст. кальвінізм успрымаўся беларускай шляхтай як сродак змяншэння залежнасці ад дамінуючага духавенства і каралеўскай улады. Падобнае адбывалася і ў міжваенны перыяд, на прыкладзе Гальяша Леўчыка. Ролю істотнага штуршка адыграла місія амерыканскіх метадыстаў, якая, хаця згортвала сваю дзейнасць, аднак аставаліся верніцкія суполкі. Даволі цікавым феноменам таго часу была прыналежнасць да пратэстанцкіх суполак кіраўніцтва Грамады ўключна з Браніславам Тарашкевічам, якое, паралельна, прымыкала і да камуністычнай плыні. Метадысты, у сваю чаргу, дапамагалі беларускім гімназіям, напрыклад, у Клецку. Паводле Алега Латышонка, гэтае супрацоўніцтва мела меркантыльны характар, калі беларускія нацыянальныя дзеячы супрацоўнічалі з аднымі і другімі, разлічваючы на грашовыя ўзносы з абедзвюх старон. У савецкі час пратэстанты змагаліся за выжыванне. У постсавецкі час пратэстанцкія абшчыны актыўна развіваюцца і іх колькасць зараз абганяе колькасць зарэгістраваных каталіцкіх абшчын, хаця саступаюць па колькасці вернікаў. Зараз у Беларусі так Царква, як і Касцёл, перасталі быць інструментамі паланізацыі ці русіфікацыі, а нават становяцца фактарамі беларусізацыі, чаго нельга сказаць пра пратэстантаў — яны заўсёды падстройваюцца пад паству.

Святлана Сілава, таксама з ГрДУ, расказала пра духоўнае акармленне турэмных вязняў праваслаўным духавенствам у Гродзенскай губерні ў пачатку XX стагоддзя. У той час была ўжо сфармавана сістэма такога акармлення. У маі 1831 года была сфармулявана ўрадам турэмная інструкцыя, якая змяшчала раздзел аб царкве і рэгламентавала ўсе аспекты турэмнага акармлення. Узрастае роля святароў у выхаваўчым уздзеянні на зняволеных. Пачынаецца будаўніцтва або прыстасоўванне памяшканняў на турэмныя царквы і капліцы. Духавенства ўваходзіць у склад турэмнай адміністрацыі. У 1880-я гады з'явіўся ў Расійскай імперыі самастойны інстытут турэмнага духавенства, які падпарадкоўваўся мясцоваму епіскапату. Прыхаджанамі турэмных цэркваў былі не толькі зняволеныя, але і турэмны персанал. У пачатку XX стагоддзя ў Імперыі былі 273 турэмныя царквы і 77 прытурэмных цэркваў, дзе служыла больш трохсот сарака святароў. У папраўчых арыштанцкіх аддзяленнях мелася яшчэ сорак цэркваў. 17 красавіка 1905 года выйшаў указ аб верацярпімасці і праваслаўныя святары сталі вельмі актыўна прыцягваць для тлумачэння паліцыянтам і іншым чынам асаблівасцей розных веравызнанняў, бо менавіта паліцэйскія чыны былі адказныя за правядзенні набажэнстваў у розных іншаверных храмах. Галоўнай умовай такіх дазволаў было тое, што вернікі не належаць да арганізацый праследаваных законам. У Гродзенскай губерні было восем турэмных замкаў — ва ўсіх павятовых гарадах апрача Саколкі, дзе такі замак быў ліквідаваны ў 1884 годзе. Большасць вязняў была ва ўзросце 21-50 гадоў, але градацыя вязняў паводле ўзросту пачыналася ўжо з дзесяці гадоў; такія вязні, да пятнаццаці гадоў, таксама знаходзіліся ў турмах Гродзенскай губерні. Большасць вязняў складалі сяляне: у 1900 годзе ў турмах губерні былі 641 мужчына і 137 жанчын, з іх ліку 431 мужчына і 96 жанчын былі з сялянскага саслоўя. Найбольш распаўсюджанымі злачынствамі былі дзеянні супраць грамадскага парадку ды супраць здароўя, жыцця, гонару і свабоды прыватных асоб. Па веравызнанні значна пераважалі праваслаўныя. У іншым ракурсе: сярод зняволеных пераважалі пісьменныя мужчыны, бывалі, аднак, гады, калі пераважалі непісьменныя. Гэта патрабавала асаблівых форм працы з гэтымі людзьмі і ўлічвання ўсіх фактараў, бо гэтыя людзі знаходзіліся ў турэмных установах доўгі час. У гродзенскім турэмным замку быў асобны храм; іншыя турмы асобных храмаў не мелі. У гродзенскі храм маглі заходзіць гараджане на літургію, а зняволеныя выступалі як пеўчыя. Праваслаўнае духавенства апекавала не толькі праваслаўных, але і католікаў, напрыклад, паміналі адных і другіх на службах без ніякага ўзнагароджвання. У вялікія святы ў гродзенскай царкве чытанні чыталі зняволеныя, царкоўная прыслуга была таксама са зняволеных. У Беластоку ў 1906 годзе, у сувязі з непрыстойнымі паводзінамі вязняў, асабліва палітычных, набажэнствы служыліся толькі ў Каляды і Вялікдзень. Праваслаўныя вернікі пасцілі, хто жадаў, у апошні тыдзень Вялікага посту. Праваслаўнае святарства спавядала не толькі праваслаўных, але і каталікоў; каталікоў спавядалі ў асобных пакоях — у 1906 годзе ў гродзенскай турме спавядалася 90 католікаў: 77 мужчын і 13 жанчын; усе яны былі дапушчаны да прычасця. Былі адзінкавыя выпадкі, калі зняволеныя адмаўляліся ад споведзі; выпадкаў раскайвання злачынцаў не зафіксавана. Паколькі сярод вязняў было шмат непісьменных, то духоўнае святарства навучала іх таксама грамаце, напрыклад, у Гродне. Пісьменным зняволеным выдавалі кнігі, за якія адказваў святар, які вёў турэмную бібліятэку. Кнігі ў гэтыя бібліятэкі купляліся за выдзеленыя з казны грошы, або былі ахвяраваны ў выніку дабрачынных грамадскіх акцый. Акрамя гэтага ўсе турмы атрымлівалі часопісы „Русский паломник” і „Воскресение”, а ў слонімскай турме да таго былі часопісы „Кормчий”, „Дружеские речи” ды „Прогрессивное садоводство и огородничество” — шмат жа сядзела сялян... У дыскусіі ксёндз Гузевіч падаў пад сумненне прыведзеныя статыстыкі, сыходзячы са сваёй касцельнай практыкі, дзе не вядзецца спавядальнае справаздачы; ён выказаў меркаванне, што турэмныя святары падавалі фіктыўныя інфармацыі наконт сваёй службовай дзейнасці.

Чарговы даклад быў таксама насычаны статыстыкамі; Эдмунд Ярмусік з ГрДУ меў расказаць пра рэлігійнасць польска-беларускага памежжа, але па сутнасці нашрыхаваў ён канфесійную панараму сучаснай Беларусі. Вялікі ўплыў на гэтую карціну мела дзяржаўная канфесійная палітыка ды міграцыі, напрыклад, зараз пасля апошняй вайны з Гродзенскай вобласці выехала звыш шасцідзесяці сямі тысяч насельніцтва. Дамінуючымі на Гродзеншчыне канфесіямі з'яўляюцца праваслаўе, каталіцызм і пратэстантызм; гэтая апошняя намінацыя асабліва дынамічна ўплывае на рэлігійнасць насельніцтва цягам апошніх дзесяцігоддзяў. Іудаізм і іслам нешматлікія. Апошнім часам праваслаўныя ці католікі, якія выходзяць замуж за асоб „каўказскай” нацыянальнасці, становяцца мусульманамі і колькасць апошніх у Гродзенскай вобласці расце. У выпадку праваслаўя і каталіцтва канфесійная ідэнтыфікацыя супадае з нацыянальнай і культурнай традыцыяй, чаго не назіраецца ў пратэстантаў. У Беларусі паводле апытанняў амаль палова насельніцтва лічыць сябе веруючымі, з іх 80% складаюць праваслаўныя, 15% — рыма-католікі і 2-3% — пратэстанты розных намінацый. Паводле іншага апытання шчыра веруючымі назвала сябе толькі 20% насельніцтва Беларусі, з якіх каля 57% склалі праваслаўныя, а 34% — католікі. Па Гродзенскай вобласці 72,3% рэспандэнтаў палічылі сябе веруючымі. Але тут з'яўляецца і новы тып рэлігійнага чалавека — секулярнага веруючага, які высока цэніць ролю рэлігіі ў грамадстве, але не жыве царкоўным жыццём; гэта, паводле даследчыкаў, найбольш характэрнае праваслаўнаму насельніцтву. Дарэчы, праваслаўныя адносна мала бываюць на набажэнствах, значна больш католікі і амаль поўнасцю пратэстанты. У іншым ракурсе: найбольш рэлігійнае насельніцтва ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях... У арганізацыйным: шмат дзяржаўных ведамстваў РБ падпісала дамовы аб супрацоўніцтве з Праваслаўнай царквой; вынікае гэта з прарасійскага вектара дзяржаўнай палітыкі... Зараз у Беларусі ўзводзіцца каля ста пяцідзесяці цэркваў і звыш трыццаці касцёлаў. Адносна мовы можна заявіць, што Каталіцкі касцёл перастаў быць касцёлам польскім — ён становіцца беларускім. На інаўгурацыі навучальнага года ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч пачаў інаўгурацыйную імшу выключна па-беларуску, усе інаўгурацыйныя лекцыі таксама чыталіся па-беларуску. У дыскусіі ксёндз Гузевіч спытаў, з чаго вынікае дыспрапорцыя ў колькасці будаваных цэркваў і касцёлаў. На гэта пытанне адказала Святлана Сілава, што ў розныя гістарычныя перыяды, напрыклад у XVII і XVIII стагоддзях, касцёлаў было больш чым цэркваў і зараз касцёлаў не будуецца многа, таму што яны былі пабудаваны намнога раней, затое праваслаўных цэркваў не хапае, таму зараз яны і будуюцца ў большай колькасці...

Даклады прачыталі таксама Сяргей Амелька, Аляксандр Горны, Сяргей Піварчык (усе з ГрДУ) і Агнешка Маслінская з Варшаўскага ўніверсітэта.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА


Кс. Войцех Гузевіч


Аляксей Загідулін


Святлана Сілава


Эдмунд Ярмусік

## «Мультызберагание»


■ Іаанна Сэрачынская

На дзвярах крынскай школы вялікая афіша — некалькі архіўных здымкаў у колеры сэпія і таямнічы загаловак «З дэпартацыі па рэпатрыяцыю». Ці будзе нешта пра бежанства, а можа пра пасляваенную рухомую польска-беларускую мяжу, а можа пра пасляваенныя памежныя перасяленні жыхароў Гродзеншчыны.

Дата мерапрыемства — 17 верасня, значыць 76 гадавіна паслядоўнасцей пакта Молатава-Рыбентропа.

Удзел у ім прынялі вучні старэйшых класаў і настаўнікі мясцовай школы. Прыйшлі таксама бургамістр Крынак Іаланта Гудалеўская, прадстаўнікі пагранічнікаў, царквы і касцёла.

**«З дэпартацыі па рэпатрыяцыю»**

— гэта некалькі здымкаў з гісторыі і сучаснасці палякаў на Усходзе, ахвяр савецкіх рэпрэсій, і іх патомкаў. Здымкі з'яўляюцца часткай праекта пад загалоўкам «Віва Падляшша», да ўдзелу ў якім запрошаны таксама крынскія школьнікі. Арганізатарам мерапрыемства, а заадно аўтарам праекта з'яўляецца варшаўскі фонд «Мультызберагание».

— Савецкія дэпартацыі пачаліся ў лютым 1940 года. Быдлячымі вагонамі везлі ў Сібір, на Камчатку і ў сярэднеазіяцкія стэпы. Паўтара мільёна палякаў запынілася на нялюдскай зямлі, — звярнулася да сабраных адна з заснавальніц фонду, вядучая мерапрыемства Іаанна Сэрачынская.

Яе «нялюдскай зямлі» супярэчылі словы ганаровага госця мерапрыемства, жывога сведкі падзей Наталлі Маліцкай, дачкі дэпартаваных. Наталля нарадзілася і пражыла большасць свайго жыцця ў Казахстане. Там яна прысвяціла сябе дзейнасці ў карысць польскай меншасці. У Польшчу прыехала пяць гадоў таму, дасягнуўшы ўжо пенсіённага ўзросту. Папрасіўшы прабачэння за не самае лепшае авалоданне польскай мовай, сказала, што тамтэйшыя палякі вельмі ўдзячныя казахам за дапамогу, якую аказалі ім у самых цяжкіх хвілінах.

— Быў пачатак календарнай вясны, але ў паўночным Казахстане гэта яшчэ зіма, — пачала свой аповед спадарыня Наталля. — Таварныя вагоны запыніліся ў шчырым полі. Савецкі жаўнер забіў кол у зямлю і сказаў: «Тут будзе вёска».

З сабой не мелі амаль нічога, таму што збіраліся толькі пятнаццаць мінут. Што ж можна ўзяць у так кароткім часе — толькі сямейныя памяткі і польскія кніжкі. Казахі падзяліліся з імі апошняй лустай хлеба.

Наталля — польская рэпатрыянтка — у Польшчы адчувае сябе добра. Асабліва захапляецца ласкавым надвор'ем і надта здзіўляецца, калі кожны дзень па радыё чуе: «На жаль, сёння цёпла; на жаль, сёння дождж; на жаль...; на жаль...». А казахі цешацца кожным днём і надта не клапоцяцца пра заўтрашняе. Яны надта гасцінныя і сяброўскія. Вельмі па іх тужыць.

Некалькі разоў выказаная ў час мерапрыемства фраза «нялюдская зямля» кладкі да ўзаемаразумення і міжкультурнага дыялога не пабудуе, не дапаможа таксама ў выхаванні моладзі ў духу талерантнасці. А менавіта пабудову дыялога паміж культурамі і веравызнаннямі запісаў у сваім у статуце варшаўскі фонд.

Адным з членаў гэтага фонду з'яўляецца маладая рэпатрыянтка з Грузіі Лілі Завадская. Яна падрыхтавала сабраным цікавую мультымедыйную прэзентацыю пра жыццё палякаў у Грузіі, у тым ліку пра дзейнасць польскай нядзельнай школы ў Тбілісі.

**Фонд «Мультызберагание» ў Крынках.**

Як сцвердзіла Іаанна Сэрачынская, у Крынкі папалі зусім выпадкова. Але, здаецца, выпадкова паявілася тут толькі Іаанна. Для Дароты Пажымес — другой з заснавальніц фонду, было гэта зусім свядомае рашэнне. Шматкультурнасці і поліканфесійнасці, якімі захапляецца штодзень, шукала па ўсёй Польшчы. Выбрала толькі Крынкі. Закахалася і ў само месца, і ў мясцовага мужчыну. Для яе гэта таксама сентыментальнае падарожжа — менавіта з падляшскага Драгічына паходзіць яе бацька.

— У 2013 годзе стварылі мы праект курсаў для пагранічнікаў, — кажа Іаанна. — Адной з умоў быў выбар мясцовасці з царквой, касцёлам і мячэццю. Усё гэта можна знайсці толькі ў Крынках. У выніку атрымалася спалучэнне захопленняў Дароты з практычнымі ўмовамі праекта.

**Супрацоўніцтва с крынскай школай**

— Трэба адзначыць, што праходзіць яно выдатна. Дырэкцыя вельмі пазітыўна ставіцца да нашых прапаноў. У чэрвені бягучага года вучні падрыхтавалі 8 прац на наш конкурс "Сямейныя ваенныя гісторыі». Ва ўзбагачаных архіўнымі здымкамі працах пісалі пра прымусовыя работы ў Германіі, перасяленні ў СССР і пасляваеннае перасоўванне беларуска-польскай мяжы.

**Бліжэйшыя планы**

— Неўзабаве стане вядома ці атрымаем датацыю на вялікую справу, а менавіта адкрыццё ў Крынках шматкультурнага цэнтра. Шматкультурнага значыць і беларускага. Плануем праявдзенне, між іншым, даследаванняў мясцовай гаворкі. Падрыхтоўкі да гэтага ў сэнсе знаёмства з адпаведнай літаратурай не прадбачваем. Нам ідзе пра стварэнне слоўніка. Ствараць яго, значыць збіраць інфармацыю ад мясцовых дзядуляў і бабуль, будуць вучні. Што зробім з гэтым далей — не вядома.

Затое вядома, што ёсць ужо грошы з Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны на тры культурныя выхадныя крынскіх вучняў у Варшаве. У планах, між іншым, палацы, музеі і тэатры.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**







У мінулым нумары „Нівы" мы пісалі аб тым, што Беларусь зараз знаходзіцца ў часе так званых „прэзідэнцкіх выбараў", якія насамрэч выбарамі не з'яўляюцца, а толькі мерапрыемствам па працягненню паўнамоцтваў цяперашняга яе правіцеля — Аляксандра Лукашэнкі. Сённяшняе беларускае палітычнае жыццё ўвогуле мала сведчыць аб тым, што ў краіне праходзіць нейкае спаборніцтва ідэй, поглядаў, меркаванняў на існаванне грамадства падчас глыбокага крызісу. І хоць ён ахапіў усе бакі жыцця падлукашэнкаўскіх беларусаў, запатрабаванасці ў беларускіх людзей на якія-кольвечы змены няма і нават не праглядаецца. Таму і электаральная кампанія праходзіць у такой цішы, што разумееш — акрамя дзеючай улады, гэтыя „выбары" ўвогуле мала каму патрэбны. З гэтай нагоды і вызваленне напрыканцы жніўня шасцёх палітвязняў бачыцца выключна спробай пасля выбараў пралезці, як кажуць у народзе, са свіным рылам у калачны рад — то-бок займець магчымасць для цяперашняга неўязнога ў еўрапейскія краіны беларускага прэзідэнта пасядзець перад тэлекамерамі ў сталіцах заходніх дзяржаў.

Паколькі палітычнае поле ў Беларусі практычна вынішчана і палітычныя партыі не адыгрываюць аніякай ролі, то ў першых шэрагах у даказванні абсурду беларускіх „выбараў" апынуліся праваабаронцы. Менавіта яны распачалі больш-менш вядомую ў беларускім грамадстве кампанію па назіранні за гэтымі „выбарамі". Асноўнай мэтай яе, як распавядаецца на адмысловa створаным сайце „Праваабаронцы за свабодныя выбары" па адрасе http://elections2015.spring96.org, ёсць „ацэнка выбарчага працэсу з пункту гледжання беларускага выбарчага заканадаўства і міжнародных стандартаў свабодных і дэмакратычных выбараў, інфармаванне беларускай грамадскасці і міжнароднай супольнасці аб ходзе выбарчай кампаніі і выніках маніторынгу". Хаця насамрэч праваабаронцы ставяць мэту, сугучную з мэтай часткі апазіцыі, якая яшчэ здолела захаваца: добрасумленна падлічыць колькасць выбаршчыкаў, якія прыйдуць галасаваць. Ну, а паколькі, зыходзячы з досведу ўсіх мінулых выбараў, беларускія ўлады дасягнулі вялікага майстэрства ў фальсіфікацыі вынікаў галасавання, то па-сапраўднаму падлічаныя галасы мусяць у чарговы раз даказаць усяму свету, што, як калісьці пісаў дацкі казачнік Ханс Крысціян Андэрсен, „кароль голы", то-бок па-ранейшаму нелегітымны.

Пакуль галасаванне яшчэ не пачалося, то праваабаронцы размясцілі на сваім сайце карту паведамленняў пра падзеі электаральнай кампаніі ў гарадах Беларусі. Большасць з іх з'яўляецца своеасаблівымі „весткамі з палёў" — распавядаюць, дзе прайшлі сустрэчы з выбаршчыкамі, дзе быў наладжаны перадвыбарчы пікет і гэтак далей. У той жа час ёсць там ужо і паведамленні пра парушэнні, як лічаць праваабаронцы, выбарчага беларускага заканадаўства. Яны таксама месцяцца і ў стужцы навін сайта, якая размешчана пасярэдзіне цэлага выяўлення.

„Праваабаронцы за свабодныя выбары" сабралі і разнастайныя афіцыйныя паперы, датычныя „выбараў", а таксама формы па фіксацыі парушэнняў, і размясцілі гэта ўсё на старонцы „Дакументы".

Ну, а каб пра ўсе парушэнні як мага хутчэй даведаліся як у Беларусі, так і за яе межамі, сайт мае тры моўныя версіі — беларускую, рускую і англійскую.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**




Славутаму кампазітару — чвэрць тысячагоддзя

## 250 гадоў з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага



Выдатны кампазітар, аўтар славутага паланэза „Развітанне з радзімай", дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай Міхал Клеафас Агінскі нарадзіўся 7 кастрычніка 1765 г. у мясцовасці Гузаў пад Варшавай. Паходзіў са старэйшай княскай лініі роду Агінскіх, сын Андрэя і Паўлы з Шэмбекаў. Ад бацькі ўспадкаваў тытул графа. Атрымаў добрую хатнюю адукацыю, меў выдатныя здольнасці да музыкі і замежных моў. Уплыў і ўражанні ад музыкі атрымаў пасля наведвання Слоніма, дзе яго сваяк Міхал Казімір Агінскі трымаў тэатр еўрапейскага роўню.

У 1786 г. Агінскі абраны паслом сойма Рэчы Паспалітай, быў камісарам Скарбовай камісіі ВКЛ, потым займаў пасаду мечніка вялікага літоўскага, быў амбасадарам у Галандыі, выконваў дыпламатычную місію ў Лондане. Была ў біяграфіі і старонка сораму, калі Агінскі ў 1791 г. дзеля захавання маёнткаў ва ўсходняй частцы Беларусі прысягнуў расійскай царыцы Кацярыне ІІ. У 28-гадовым узросце ў 1793 г. займаў пасаду падскарбія ВКЛ, абіраўся паслом на Гарадзенскі сойм. У час касцюшкаўскага паўстання 1794 г. Агінскі далучыўся да віленскіх паўстанцаў, уваходзіў у Найвышэйшую літоўскую раду. Ахвяраваў на патрэбы паўстання 188 тысяч злотых, кіраваў 480 стральцамі. У чэрвені 1794 г. двойчы з аддзелам стралкоў і 200 коннікамі спрабаваў прабіцца ў тагачаснае Менскае ваяводства, каб узняць і там паўстанне. У жніўні зрабіў рэйд да Дынабурга (Дзвінска), змагаўся супраць прускіх войскаў. Пасля захопу Вільні расійцамі праз Галіцыю выехаў у Аўстрыю. За ўдзел у касцюшкаўскім паўстанні маскоўскія ўлады канфіскавалі яго маёнткі.

Жыў у Вене, Венецыі, Стамбуле, Парыжы. Калі ў Расійскай імперыі змянілася ўлада, атрымаў магчымасць вярнуцца на радзіму. Пасля прысягі новаму імператару Аляксандру І, як і іншыя выгнаннікі, атрымаў назад свае маёнткі. Пасяліўся на стала ў родавым маёнтку Залессе, што непадалёк Смаргоні. Жыў у Залессі ў 1802-1806 гг., ажаніўся, збудаваў новы палац, парк у англійскім стылі, аранжарэі, звярынец. Сабраў багатую бібліятэку. Менавіта тут, у Залессі, і быў напісаны славуты паланэз.

У 1810 г. Агінскі атрымаў пасаду сенатара і чын тайнага саветніка, а таксама шэраг узнагарод. Неаднаразова сустракаўся з імператарам Аляксандрам, распрацаваў і падаў яму план аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Расійскай імперыі, аднак маскоўскі цар адхіліў гэты праект.

У чэрвені 1812 г., калі пачалася вайна, Міхал Клеафас з'ехаў на ўсход разам з расійскім войскам, жыў у Пецярбургу. Пасля вайны з Напалеонам вярнуўся ў Залессе, дзе заставаўся да 1822 г., патроху адыходзячы ад палітычных спраў. У 1923 г. выехаў разам з сям'ёй у Італію, жыў у Фларэнцыі, пісаў музыку і літаратурныя творы. Стаўся вядомым як аўтар папулярных паланэзаў для фартэпіяна, якія вызначаюцца лірызмам, меладычнасцю, звязаных з народна-песеннымі традыцыямі. Пісаў таксама маршы (у тым ліку «Марш паўстанцаў 1794»), вальсы, мазуркі, менуэты, рамансы. Аўтар оперы «Зэліс і Валькур, або Банапарт у Каiры».

Памёр Міхал Клеафас Агінскі 15 кастрычніка 1833 г., быў пахаваны на кляштарных могілках пры касцёле Санта Марыя Навэля, пазней перапахаваны ў пантэон Санта Кроччэ. У Беларусі Агінскі дастаткова ўшанаваны. Яго імем названы вуліцы, выпушчана памятная манета, а нядаўна распачаў дзвеары адноўлены палац-музей у Залессі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У дружным калектыве

У вясковай святліцы сяла Чаромха 3 кастрычніка мясцовы гурток пенсіянераў арганізаваў Дзень сеніёра. Гэтае цыклічнае мерапрыемства чарамшане арганізуюць штогод. Сёлета ўдзельнічала ў ім больш сарака пяці асоб, у тым ліку войт гміны Міхал Врублеўскі, настаяцель Чаромхаўскага прыхода а. Юры Пліс з матушкай, а. Мікалай Беламызы, затым група пенсіянераў з Раённага аддзялення Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе на чале са старшынёю Мікалаем Янчуком. Падрыхтоўкай пачастунку займаліся мясцовыя гаспадыні: Надзея Унучка, Анна Боцюк, Яўгенія Кердалевіч і Валянціна Дудэль. Гэта ініцыятыўныя жанчыны. Першыя тры актыўна ўдзельнічаюць у фолькавай вакальнай групе. Сёлета іх калектыў атрымаў шыкарныя ўборы, за якія пахадайнічала настаўніца Ірэна Вішанка. Мерапрыемства пачалося супольнай малітвай, якую ініцыяваў а. Юры Пліс. Затым пачаўся пачастунак. Не абышлося без тостаў і пажаданняў для юбіляраў. А былі імі Ніна Шаўцоў са станцыі Чаромха, Надзея Унучка і Барыс Кердалевіч. Жанчыны адзначалі дзень нараджэння: Ніна Шаўцоў — 3 кастрычніка, Надзея Унучка — 4 кастрычніка. Барыс Кердалевіч сёлета адзначае 90-годдзе. У знак прызнання ўдзельнікі мерапрыемства праспявалі ім „Многае лета”.

Усяго было ўдосталь. Ды і кампанія сабралася не абы-якая — вясёлая, як у прымаўцы гаворыцца: здатная да... выпіўкі і спеву. Песні не сціхалі ні на мінуту — тутэйшыя, з народнай скарбніцы, якія захавалі ў памяці пасівелыя бабулькі — Надзея Шатыловіч, Марыя Кердалевіч, Яўгенія Салінская, Лідзія Кердалевіч, Марыя Унучка. Не заставаліся ззаду Надзея Унучка (важак пенсіянераў), Анна Дудэль, а таксама астатнія. Уперамешку блыталіся рускія, беларускія, украінскія і польскія напевы: „Скакал казак чэрэз даліну”, „Тонкая рабіна”, „Байкал”, „Посылала мэнэ маты”, „Касіў Ясь канюшыну”, „Ой ляцелі гусі з броду” ці даўнейшы польскія гіты шасцідзясятых гадоў: „Марына”, „Як шыбко плыне жыце” ды іншыя. Зала гучала ад музыкі і спеву. Гасцей весяліў Мікалай Вашчук — свой музыкант, з сям’і пенсіянераў. З мужчын дасканалым спеваком аказаўся Грыша Боцюк, сардэчны калега і жартаўнік на пенсіянерскіх мерапрыемствах. А Мікалай не ленаваўся і акампаніраваў пявунням на гармоніку. Хутка сцякаў час у вясёлай кампаніі, бо пенсіянеры з сяла Чаромха — гэта сапраўды дружны калектыў, якога ініцыятыўнасць рэкамендую пераймаць не толькі сеніёрам Чаромхаўскай гміны, але і няўрадавым арганізацыям на Падляшшы. Доказам гэтаму могуць быць шматлікія ганаровыя граматы і фотаздымкі з культурных імпрэзаў, якія ў мясцовай святліцы экспануюцца ў зашклёнай шафцы.

Я пакідаў кампанію ў поўным разгары забавы. Клікалі гаспадарскія абавязкі ды і здароўе пакрысе падводзіць. Затым каму ў дарогу, таму час.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Яны чытаюць „Ніву”

Сёлета ў верасні ў Новым Ляўкове ў Нараўчанскаай гміне беларускі штотыднёвік „Ніва” чыталі Галіна і Аляксандр Скепкі, Эва Дзеніс, Крыстына і Ян Грэсік, Лідзія і Юрый Трусевічы, Зіна Сахарчук, Анна і Ян Целушэцкія, Раман Марчук, Яраслаў Ігнацюк, Лідзія Галубоўская, Ніна Галубоўская, Андрэй Пучынскі, Люба Скепка, Іаланта Стыпулкоўская, Альжбета і Уладзімір Красноўскія, Марыя і Сяргей Саевічы, Лідзія Казлоўская, Марыя Крышань ды Валянціна і Аляксандр Ігнацюкі. У вёсцы Плянта родны часопіс чыталі Уладзімір Клімюк, Валянціна Самойлік, Галіна Бірыцкая ды Марыя і Ян Янелі. Вышэйзгаданыя чытачы купілі 20 экземпляраў „Нівы” № 36, 37 і 38.

Апошні вераснёўскі 39 нумар роднага часопіса атрымалі ад солтыса Новага Ляўкова Міхал Бароўскі, жыхар Свінарояў (ён працуе сакратаром у Гміннай управе ў Нараўцы і зацікаўлены, аб чым пішуць у нашай беларускай газеце), Віктар Кабац з Гайнаўкі (ён пабываў на мастацкім пленэры ў Нараўцы і вельмі ўцешыўся, калі ўбачыў вялікі артыкул пра сябе пад загалоўкам „80 гадоў жыцця і 60 гадоў творчай працы” са здымкам на першай старонцы), Валянціна Самойлік з Плянты (яна непарыўна звязаная з „Нівай”), а таксама Вольга і Вітальд Скепкі, Галіна і Аляксандр Скепкі, Эва Дзеніс, Ірына Казлоўская ды Людміла і Барыс Казлоўскія (пра якіх „Ніва” часта пісала) — яны жывуць на калёніі Новага Ляўкова (ва ўрочышчах Лісіныя Норы і Лазовае). Усе восем экземпляраў „Нівы” купілі ў краме ГСу ў Нараўцы 24 верасня гэтага года. **(яц)**

8 ☞ працяг

# Мне трэба беларуская Беларусь!!!

людзі выраслі патрыётамі. Я пры гэтым часта нагадваю адзін зусім блізкі нашай гісторыі прыклад. Некалі Расея, загрэбшы беларускія землі, загрэбла і палову Польшчы разам з Варшавай. Больш за сто гадоў гэтая палова Польшчы была ў складзе Расеі, і ў Варшаве працаваў рускі ўніверсітэт. Што рабіла інтэлігенцыя? Ну, два разы паспрабавалі падняць паўстанне — захлынулася ў крыві. Маю на ўвазе 1831 год, затым — 1863-1864 гг. Але паміж гэтымі датамі і ўвесь час што рабілі? Вучылі моладзь у польскіх школах, яны дазваляліся, на шчасце, выдавалі польскія газеты, стваралі польскія гурткі ўсемагчымыя, выхоўвалі ў патрыятычным духу. І калі толькі наступіў момант спрыяльны — 1918 год — у адно імгненне Польшча стала незалежнай дзяржавай, скінула гэта ярмо царскае, і так ідэйна, духоўна, маральна народ быў падрыхтаваны, што праз год са зброяй пайшоў на Савецкую Расею. Канешне, Еўропа дапамагла. Ну дык правільна. Але ж праз год! Год назад былі калоніяй Расеі! Дык вось, калі мы ўсе, хто гэта разумее, будзем выхоўваць моладзь ад калыскі, ад дзіцячых садкоў, ад школы выхоўваць патрыётамі Беларусі, і перш за ўсё — патрыётамі роднага слова, як было ў Польшчы, мы не загінем. Наступіць і для нас 1918 год. На гэта мае спадзяванні. Ва ўсялякім разе, не сядзець рукі склаўшы. Я, на жаль, не выходжу на людзі шмат гадоў, але чытаю, колькі ў нас такіх добрых арганізацый, гурткоў, школ, дзе вывучаецца беларуская мова. Брава, гэта выдатна. Добрыя людзі ўсё яшчэ спадзяюцца, спадзяюцца, ну і я ў тым ліку з гэтымі людзьмі спадзяюся і веру, што час наступіць. Не загінем!

**Гутарыў Адам Завальня, Беларускае Радыё Рацыя**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. вялікае лісцевае дрэва ў... сувязі = 35 _ 22 _ 31 _;
2. рака і горад між Полацкам і Міёрамі = 25 _ 26 _ 27 _ 34 _ 28 _ 24 _;
3. муж дачкі = 11 _ 6 _ 7 _ 8 _;
4. неакультуранае на адзін сезон поле = 3 _ 33 _ 32 _ 30 _ 29 _;
5. буйны драпежнік сямейства кашэчых, які водзіцца ў Амерыцы = 5 _ 14 _ 15 _ 16 _;
6. напрыклад Дон Кіхот = 17 _ 18 _ 19 _ 10 _9 _;
7. маці царэвіча = 40 _ 41 _ 37 _ 38 _ 39 _ 36 _;
8. носьбіт душы = 20 _ 2 _ 1 _ 21 _;
9. далікатная пража, якою быў калісь „вымашчаны” шлях з Кітая ў Еўропу = 4 _ 12 _ 13 _ 23 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | | | | | | 22 | 23 |
| | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
| 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 38 нумара**

Гульня, кнот, моладзь, клей, каляндар, мы, кемалізм, управа, грымаса, цюк.

Рашэнне: **Няма той крамы, дзе купляюць мамы.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

**Ніва**
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 100 egz.

# 11.10 — 17.10

**(22.03. — 20.04.)** Да 14.10. многа выпадковых памылак, слухай уважліва што табе гавораць людзі; хтосьці з наваколля схоча цябе падмануць. Сямейныя справы могуць паблытацца, зваротны пункт — 13.10., які заінспіруе цябе да новых дзеянняў. У кастрычніку будзеш лекаўстойлівы, таму ў выпадку мігрэні, боляў пазваночніка ці суставаў карыстайся натуратэрапіяй. 14-18.10. варта дзейнічаць хутка, бо тады дасягнеш тое, на чым табе залежыць. Час поспехаў і прыбыткаў, асабліва ў прафесійных справах. 16, 17.10. атрымаеш цікавую прапанову. З 15.10. (да 19.10.) старайся не аддавацца ўспамінам былога.

**(21.04. — 21.05.)** 10-14.10. дасягнеш тое, аб чым марыш, і ўдасца гэта меншым коштам, чым табе здавалася б. 13.10. відаць трэба будзе табе адмовіцца ад некаторых спраў; не інвестуй у сувязь, перад якой няма будучыні. З 15 (да 19.10.) можаш страціць здольнасць аб’ектыўнай ацэнкі сітуацыі, можа цябе ашукаць хтосьці, каго ты лічыў прыяцелем.

**(22.05. — 22.06.)** Да 13.10. кепскавата са здароўем і настроем; пасля папраўіцца. 10-14.10. у тваёй пары можа прытрапіцца крызіс і трэба будзе ўсё абмеркаваць. 11-15.10. сумленная праца прынясе знакамітыя вынікі. З 15.10. можаш пазнаёміцца з вельмі цікавай асобай, з якой можаш адкрыцца на свет. Але можа паявіцца чалавек, які будзе старацца намяшаць у тваіх асабістых справах. Калі ты тоўсты, некаларыйная дыета прынясе вельмі добры вынік.

**(23.06. — 23.07.)** 10-13.10. завіраваны ў здароўі і кампаніі; лепш адмоўся ад вялікіх планаў. Не натужвайся, адпачывай, пакінь справы, якія цябе моцна турбуюць. З усёй сілы асцерагайся зайздрасці. Расчаруюць цябе кантакты са сваякамі, не дай сябе ўцягнуць у нейкі канфлікт, з-за якога не будзеш спаць па начах. 11-15.10. нейкія змены на працы, прымеш удзел у новых мерапрыемствах.

**(24.07. — 23.08.)** Форма някепская. Цяжкавата — 10-14.10. нават найлепшыя задумы могуць сустрэцца з непрабойным мурам. Але не паддавайся! І пачне папраўляцца ў пары. А самотнаму Льву заляціць у вока цікавы аб’ект. Задбай аб свой страўнік.

**(24.08. — 23.09.)** 11-15.10. ідэальны час на распланаванне сямейнага бюджэту і пошукі новых крыніц прыбыткаў. Тваё рашэнне будзе трапнае і ўмацуешся ў сваіх выбарах. 10-14.10. каханне дасць табе крылы. (15-19.10. трэба будзе рашаць аб будучыні). Для сям’і будзеш на першы кліч. Вельмі дбай аб адносіны са сваякамі, але не дай залазіць табе на галаву.

**(24.09. — 23.10.)** Ты цяпер у выдатнай форме. Дасі рады стрэсу, нервам і мноству справам для афармлення. Найлепшы час на цяжкія і фізічныя працы — пасля 14.10. можаш увесці новы метад лячэння. 10-13.10. хтосьці можа цябе расчараваць. З 15.10. (да 19.10.) не зачаруйся кімсьці, хто таго не варты.

**(24.10. — 22.11.)** 10-14.10. шэф накіне на цябе дадатковыя абавязкі, з якімі будзе табе цяжка справіцца. Але 14-18.10. хопіць табе энергіі і ініцыятывы, добра зрэалізуеш заданні, у важнай справе станеш першым. Калі цяпер з кім-небудзь звяжашся, дык шчасце доўга будзе паміж вамі. Але не дай сябе сасватаць! У палове месяца магчымыя нейкія нечаканыя і нярэдка кепскія весткі; могуць вынікнуць нейкія нядобрыя справы з дзецьмі. Можаш змадыфікаваць сваю дыету.

**(23.11. — 22.12.)** 10-14.10. пашчасціцца табе ў фінансах, добры момант таксама на прафесійны развой. Дазволь плысці свайму жыццю па плыні і чакай адпаведнага моманту. 11-15.10. не ляпні якогась глупства аб чымсьці, на чым не знаешся. Але ж будуць цябе мучыць болькі, звязаныя з нервамі і стрававальным шляхам, ідзі адразу да лекара, парабі абследаванні.

**(23.12. — 20.01.)** 10-14.10. упарадкуеш старыя справы, зверыфікуеш свае імкненні. Варта папрасіць дапамогі ў эксперта і дагаварыцца з даверанай асобай наконт бізнесавых прыёмаў. 10-13.10. магчымыя цяжкасці з-за чыёйсьці кепскай волі. 13.10. магчымыя праблемы ў пачуццях. 11-15.10. пастаў на ўласную кар’еру. Маеш вакол сябе зайздросных ворагаў — 3-13.10. яны могуць аказацца мацнейшымі і зашкодзіць табе.

**(21.01. — 19.02.)** Настрой ненайлепшы, не напружвайся. Выказвай мацнейшыя сігналы наконт сваіх пачуццяў. 10-14.10. нервовая сітуацыя можа скончыцца страшным скандалам і працяглым канфліктам. 11-15.10. можаш падпісаць дамову, якая на нейкі час забяспечыць табе бяспеку і стабільнасць. Не бойся інвеставаць. Бо хаця крыху заціснеш паппругу, пасля будзеш мець вялікія прыбыткі.

**(20.02. — 21.03.)** 10-13.10. рассакрэцяцца справы, аб якіх ты не ведаў, і інакш глянеш на партнёра. З 15.10. (да 19.10.) спадзявайся прыкрага расчаравання. 16-17.10. набярэш смеласці, каб парваць нядобрыя сувязі. Новая асоба зменіць цябе і твае погляды на жыццё. Рабі сваё, не перамайся, што мала што цябе не пахваляць, але і зганяць. Гэта зайздроснікі! 10-14.10. будзь вельмі асцярожным і не вер у залатыя горы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



# У палескай глыбінцы (17)

Рака Случ

Раніцай на чыгуначным вакзале ў Сарнах панаваў агрэсіўны хаос, як перад стварэннем свету. У першы момант я адчула сябе як спутаны конь. Ніхто пра нішто не ведаў. На пытанне, ці будзе цягнік у Гарынь, толькі паціскалі плячыма. Ніхто не ведаў гадзіны ад'езду. Ці спозніцца ён на гадзіну, дзве — пабачым, будзе відна! Гэта быў адзін адказ. Адначасова ніхто не хваляваўся, не брыдкасловіў.

— Трэба чакаць! — паўтаралі.

Цягнік, які меў ісці ажно ў Беларусь, дакладна ў Гарынь, што непадалёк Століна, пакуль не вярнуўся з трасы. Пачуццё абсурду падбівала адна акалічнасць. Я трымала ў руках набыты раней у касе білет на цягнік-здань, за які мне зараз не хацелі вярнуць грошай. Адно, што магло суцешыць і супакоіць, гэта жалезная цярплівасць натоўпу.

Вакзал напамінаў занядбаны людскі мурашнік з характэрным для правінцыяльных публічных установаў у савецкія часы дзіка-кіслым пахам. У вочы кідалася гаротнасць і стомленасць пасажыраў. Амаль сто адсоткаў складалі жанчыны з заклапочанымі, стомленымі тварамі. Спачатку я палічыла іх мясцовымі сялянкамі, якія прыехалі на гандаль са сваімі сырамі і смятанай, і зараз, распрадаўшы ўсё дабро, вярталіся з гарадскімі пакупкамі дамоў. Хоць не, тут не пахла кіслым малаком, зямлёй і каровай. Тое, што тварылася на вакзале, здавалася немагчымым, адчайным і адначасова змагарскім.

* * *

— А дзе вашы мужыкі? — спытала я ў крутой Веры. Жанчына ўвесь час перапакоўвала свой аграмадны багаж, які складалі паласатыя торбы, вянкі туалетнай паперы, пакеты з каўбасой, бананамі, шакаладамі. Наўкруг яе, быццам жывая агароджа, выстойвалі бабулькі ў хустках, чуйна назіраючы па баках. І дурны здагадаўся б, што гэтая група жанчын складае асобны кантрабандысцкі клан, у якім Вера — галава і мозг. Відаць, я спецыяльна не вылучалася ў натоўпе, бо ніхто ў кругу Веры не звяртаў на мяне ўвагі і галасна раіліся дзе схаваць «снікерс», гарэлку ў літровых пляшках, сушаныя вугры, шакалад. Снікерс — гэта, зразумела, не батонік «снікерс», а свіное сала аблітае шакаладнай глазурай. Якраз на гэты далікатэс найбольш былі ласыя мытнікі, сярод якіх рэй вёў нейкі «Гебельс». Яго баяліся як чорт крыжа. Жанчыны ў эмоцыях гадалі, калі ў «Гебельса» дзяжурства.

— Кажу вам, — супакойвала ўсіх Вера, — сёння на мяжы будзе «Шымон»!

Як не цікава, тут умелі на адлегласць прадбачыць, хто будзе правяраць іх сумкі на мяжы. Як гэта магчыма? Прагноз ставілі па прыкметах. На вакзале, некалькі метраў далей, выстойвала нейкая Валя з пакетамі «снікерса».

— Яна ўсё ведае — паясніла мне Вера. — Як на мяжы стаіць «Гебельс», дык яна ніколі «снікерса» не перавозіць...

Паколькі сярод кантрабандыстаў пераважалі старэнькія бабулькі, я спадзявалася больш магічнага адказу. Іх пажылы ўзрост і стомлены, гаротны выгляд выклікалі спачуванне. Чаму, замест сядзець у цяпле, ля тэлевізараў, яны — пенсіянеркі — рушылі кантрабандысцкім шляхам, нашпігаваным эксцэсамі і агрэсіяй?

Тут таксама быў адзін, банальны адказ. Усе хацелі дапамагчы дзецям і ўнукам.

А пытанне пра мужыкоў толькі ўзбударажыла Веру. Яе круглы, прыгожы твар раптоўна падоўжыўся і скрывіўся.

— Нашы мужыкі або п'яныя або вельмі разумныя, — адказала яна са злосцю. — Яны ў такую дарогу, дзе нервы і прыніжэнне, не паедуць. Ім адразу «BMW» давай!

* * *

Наш цягнік у рэшце рэшт прывалокся. Тая, да нядаўна застылая, цярплівая, уючная паласатымі сумкамі і мяшкамі грамада, быццам дзікі вецер завіравала на пероне. Кожны хацеў першым дастацца ў сярэдзіну. Чарговыя пяць хвілін трываў агрэсіўны штурм цягніка. Нейкая бабуля ўпала на зямлю. Здавалася, затопчуць ды затаўкуць мяшкамі. Аднак старэча вокамгненна падарвалася на ногі і жвава далучыла да штурмавікоў, штурхаючы сяброўак локцем ды пасылаючы ў іх адрас аплявуху...





Энергія баявітай бабулькі здавалася славянскай загадкай. Менавіта такіх баявітых жанчынак славяць за нашай усходняй мяжой, як і на нашым Падляшшы, у частушках-дрындушках, дзе голая грубасць, чуласць і безнадзея...

Тым часам Вера ўжо дабралася ў сярэдзіну цягніка. Зараз яна раздзяліла свой спажывецкі тавар у паасобныя рукі. Колькасць выдадзенага тавару яна запісвала на картачцы, якую пасля схавае ў сваю выпханую грашыма сашэ-бананку, перапаясаную цераз здаровыя сцёгны.

Паміж кантрабандысцкімі кланамі я прыкмеціла дух супрацоўніцтва і падтрымкі. У наступным вагоне падобная на Веру жанчына, таксама з сашэ-бананкай на сцёгнах, раздзяляла ў паасобныя рукі бабуль кітайскія апранахі. Апрача «снікерсаў» і каўбас бабулі грузілі ў свае пакеты бальныя сукенкі, футболкі і спартовыя камплекты, джынсы, басаножкі.

Я прысела паміж бабай Ганнай, бабай Тоняй і бабай Вольгай, Усе яны працавалі ў групе Веры. Жанчыны ў цішы чакалі загадаў сваёй крутой шэфіхі.

— Яна — наш анёл, — пачала баба Тоня. — Усіх ахвотных на работу прымае, нават такую Насцю, якая ўсё ўжо забывае і раз аддала тавар не таму што трэба...

— Бо ж і ў яе старэнькая мама, — пахваліла шэфіху баба Ганна. — Яна ведае як цяжка пражыць пенсіянерам...

— Мне гэтая кантрабанда непатрэбная, але дачцэ мусова дапамагчы, — уключылася ў размову баба Вольга. — Яна — бібліятэкарка. Што яна там у бібліятэцы заробіць? Смех адзін і прыніжэнне. Яе зарплата яшчэ меншая за маю пенсію, усяго трыццаць восем долараў. А ў сям'і двое дзяцей. Мужык слаба зарабляе, выпіць таксама любіць. Але гэта нармальна. Найгорш, што дачка ажно ў Днепрапятроўск з'ехала і на трэцім паверсе ў блёку жыве. Каб хоць кавалак зямлі яна мела! А так без агарода за такія грошы не пражывеш...

Пытаю іх, колькі змогуць падзарабіць за адну паездку з кантрабандай.

— За адзін курс, калі ўсё добра, ажно дзесяць долараў. Гэта не жарты! Дзякаваць Богу, што Вера такая для іх добрая, на работу бярэ...

Пытаю ў старэч, ці не баяцца займацца нелегальнай дзейнасцю.

— Я вайну перажыла, — кажа баба Тоня, — то для мяне гэтая ўся кантрабанда як разрыўка якая.

* * *

Тым часам за акном усё мяняліся краявіды. На шаўковых, бясконцых лугах, перактканых лесам, хадзілі статкі кароў. За сялом Стралец мы перасеклі гістарычную мяжу Пінска-Тураўскага княства. За Дубровіцай чакала небанальнае відовішча. Якраз тут зліваліся ў адно дзве магутныя рэкі Случ і Гарынь. З Верай і яе бабулькамі-чаўнакамі я развіталася ў палескай мясціне Міліч. Ніхто з маіх субяседніц не здагадаўся, што я прыехала з нейкай Польшчы. Наадварот, баба Тоня спытала пра нейкага Колю, у якога яе пакойны мужык калісь купіў *«коня»*.

— *Як вуон жывэ*, — пытала мяне баба Тоня, — *як, вуон біэдны горуе?*

Я ўжо хацела адказаць «байкі», але ў апошні момант апамяталася. У наваколлі Дубровіцы слова «байкі» значыць нешта іншае, чым на Падляшшы. Дакладна, «байка» — гэта небанальная выдумка, у якую ўсе ахвотна паверацъ...

Мне самой не хацелася верыць, што я яшчэ ва Украіне. Гэтае Палессе было крыху іншае ад азёрнага Палесся на поўначы Валыні. У моўным сэнсе выглядала гэта так, быццам з Чаромхі я прыехала ў Нарву.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960